



# Ад лідскіх муроў

**№2-3**




Літаратурна-мастацкі часопіс



## Шаноўныя лідзяне!

Перад вамі новы выпуск літаратурна-мастацкага часопіса “Ад лідскіх муроў”. У сілу розных прычынаў яго выданне затрымалася, але сабралася вельмі шмат матэрыялаў і мы, каб нагнаць прапушчанае, выдаём здвоены нумар у павялічаным аб’ёме.

У гэты раз значна зменены склад аўтараў. Перавага аддадзена тым, хто не друкаваўся, і ў першую чаргу моладзі, хаця шмат “старажылаў” нашага часопіса. Разам з тым шмат якія творы не ўвайшлі па розных прычынах. Таму мы пастараемся змясціць нешта з іх у наступным нумары. Але папярэджваем, што выхад наступнага часопіса плануецца праз тры месяцы і фармавацца ён будзе па іншаму больш сур’ёзнаму прынцыпу. Мы адвядзём пэўнае месца творам пачаткоўцаў і маладых аўтараў. Для аўтараў са стажам мы паведамляем, што перастаём друкаваць усіх у алфавітным парадку, а будзем выбіраць лепшыя і найбольш значныя творы, вяртаючыся тым самым да звыклых прынцыпаў літаратурных часопісаў. Мы просім нашых расейскамоўных паэтаў і пісьменнікаў дасылаць свае творы ў перакладзе на беларускую мову. Рэдакцыя не заўсёды мае магчымасць для перакладу, і не заўсёды мае час узгадняць пераклады з аўтарамі, хоць па меры магчымасці будзе гэта рабіць. Мы просім пры дасылцы вашых твораў поштай пазначаць: “У часопіс “Ад лідскіх муроў” і падаваць кароткія звесткі пра сябе. Частка матэрыялаў не трапіла ў зборнік, менавіта, таму, што не было зразумела, хто і для чаго іх праслаў. Мы чакаем васна старонках нашага часопіса.

**Рэдактар.**


# Ад лідскіх муроў.

***Заснавальнік:***
Лідскае літаратурна-мастацкае аб’яднанне “Рунь”

***Выдавец:***
Станіслаў Суднік

***Рэдактар:***
Марына Масла

***Адрас рэдакцыі:***
г.Ліда-2 , п/с 7

***Наклад:***
299 асобнікаў

***Выданне здзейснена пры дапамозе Гарадзенскага грамадскага аб’яднання “Ратуша”***

**Вокладка Міхася Бурачэўскага**

**Дызайн Арцёма Судніка**

**Наш край**



Тут, у нашым родным Краі
Не баімся воўчай зграі.
Злая сіла, кыш у мох!
З намі Нёман, з намі Бог.

Мы не можам жыць без Краю.
Мы не можам — хата з краю.
Наша хата, наш парог.
З намі Нёман, з намі Бог.

Мы вандруем родным Краем.
Мы за Край не паміраем.
Быў тут вораг, тут і здох.
З намі Нёман, з намі Бог.
8.09.1997г.
**Данута Бічэль.**

# *Ад лідскіх муроў*

## Лідскі літаратурна-мастацкі часопіс

## № 2 - 3

г. Ліда
1999 г



*Першы паэт, які напісаў пра Ліду*






# Данута Бічэль

## Замова

Цвіце лілея,
а на далоні
цвіце маленькі
сынок Антонік.

У зорнай тоні
цвіце лілея.
Святы Антоні
цябе сагрэе.

То вецер стогне,
віхор - бяздомнік.
То хвора тоне ...
Вітай, Антонік!

Расці прыгожы.
Анёлак Божы!
Расці вясёлы,
З табой Анёлы!







## Анёлы Гародні

Сяджу перад Фарным Касцёлам
пры Богу на лаўцы.
Гародня віруе наўкола
на пляцы.

Стараецца час незваротны.
Яму не належаць
Анёлы спрадвечнай Гародні
на вежах ...

І выгнаны з дому сабачка,
і люд гэты просты ...
і я, і пад Крыжам жабрачка,
мы сёстры...

Але прыбядняцца чаго там!
Мая гэта лаўка.
Звініць ва мне Боская моц
і ласка.
19.10.97г.

## Сяброўства

Сябраваць хацела з табой,
нібы ўлетку расінка з травой.
Ты таксама сябруеш са мной,
як сабака з балонкай малой.

А вялікі сабака не дзеліць
свой барыш з некім напапалам.
У яго нехта косткай пацэліць,
ён згрызе сваю костачку сам.

А вялікі сабака не мае
кожны дзень шмат касцей за душой.
Пашанцуе — ён шмат напаткае,
то падзеліцца з сучкай чужой.





## У Лідскім Замку

Што ж тварылася ў Лідскім Замку?
Тут чужынец грукаўся ў брамку.
Вежы замка ўзрывалі шведы.
Лепш бы іх гэты край не ведаў.

Пералётны хан Тыхтамыш
начаваў за мурам, як мыш,
і хапала сну яго войску,
але Вітаўт іх завёў на Ворсклу...

Сцены замка, як верныя служкі,
не лічылі смяротных страт,
як паставілі воі Касцюшкі
васемнаццаць вольных гармат...

Ад надворку і да скляпення
непарушна ў звяне ляглі
упрытык сотні тысяч каменняў
і мноства лёгкіх цаглін ...

У Лідзейцы апрыскваюць скроні
жаўрукі, што ўпалі з-пад хмар.
Абмялілі рачулку коні
крыжакоў і беглых татар.

* * *

Калі паміж мной і Духам Святым
ніякая моц не паўстане,
тады не збірайце з лісточкаў вады,
тады не марнуйце світанне.

Калі ж і да сноў, дзе спачыла любоў
прасочыцца Божае Слова,
Тады сапраўды пазбіраемся зноў
на Светлае Свята Хрыстова.
27.07.1997г.







## Восень

Вяжу сукенку на жыццё або на смерць.
Пакуль жывая, тоіцца надзея,
што нехта на мяне яе надзене,
Шчэ я магу сама сябе раздзець.

Пайшлі адсюль ніякія сябры.
Смерць не прыходзіць. Ей кутка не маю.
У тым гаі галінак наламаю,
хай на памінку топчуцца вятры.

Хапала ўлетку чорнай смакаты,
дзён-пустацветаў, выдуманай цноты,
бяссоннай, беспатольнай адзіноты.
Тут пастаю пад абразом святым.

## Іду сабе да Касцёла

Іду сабе да Касцёла,
дарогі не выбіраю,
а крылы майго Анёла
нясуць мяне, як да Раю.

Святы Францішак Ксавяры
цямрэч прайсці дапаможа.
Дае мне Святой Вячэры
Мой Збаўца Адзіны Божа.

І сэрца маё не стыне
за мястэчкам Лідай,
і продкі мае ў Святыя
пасланы маёй малітвай.

5.09.1997г.






## Дрэвы

Мае вы жывыя арэлі!
Каго вы гайдалі, грэлі?
Каму ўсміхаліся ў квеце —
мае зялёныя дзеці?

З абмытай дажджом лістотай,
прыкуты сваёй самотай,
вы ў хмаркі ўзляталі ўпотай,
вы птахаў вучылі лётаць.

Як Божа са сну падыме,
Малю - беражы іх, Божа!
Вам гожа пабыць худымі
і доўга таўсцець вам гожа.

12.04.98г.

## Я думала

Вось дрэвы ...
Яны не мае.
Адна я ў бяссоні начамі
спакойна лаўлю іх вачамі,
і ветрык мне знак падае.

Я думала — знікнуць, як дым,
пакінуць наш Край камуністы,
ён стане прасторны, празрысты,
наш Край будзе нам не чужым.

Я думала — будзе святлей,
не гэтак бяздольна, астрожна.
Тут трэба ступаць асцярожна.
Ну, што ж, пачакаем далей.

19.04.98г.






# Сон

На святой вадзіцы гатавала каву,
Смакавала каву, ціхую забаву.
Смакавала каву, скідвала навалу,
а як скінула — спаткала светлага Купалу.

Каву смакавала, ды лягчэй заснула,
ды зусім не чула гарадскога гула.
У нябыт павандравала,
там і сон спаткала,
а каб лёгенька прачнуцца,
там і быў Купала.

Я з Купалам танцавала
польку - небыліцу.
Толькі ў кніжках і чытала:
спрытны быў, як быццам.
Падказаў у сне радочак —
трэба ж сну і збыцца.
Згатавала чорнай кавы
на святой вадзіцы.

19.04.98г.

# Мама і тата

Ах, мае сонейкі — мама і тата.
Я нарадзілася — я вінавата.
Грэлі сабой у гняздзечку-пасцелі.
бо пачалі мяне, а не хацелі.

12.06.1997г.









Сяргей Астраўцоў

## Лекцыя аб каталонскай літаратуры

Пагасла святло.

На нядаўнія Каляды, якія ў нас адзначаюцца двойчы, у хаце папалілі ўсе свечкі і іншых прыдбаць яшчэ не парупіліся.

За дзвярыма ўзнікла гамана і неўзабаве скончылася. Суседзі перакаваліся, напэўна, што цемра ў кватэрах запануе надоўга. Я адшмаргнуў на кухонным акне фіранкі, запаліў фаерку і згатаваў каву.

Таемная вячэра. Не інакш.

У мяне быў госць, запрошаны гэтак, атрымлівалася, недарэчна. Але раней ён не мог адгукнуцца на маю прапанову прысвяціць адвячорак літаратурнай гутарцы за кубкам чорнага напою. Не я адзін жадаў бачыць яго ў сябе.

Мы пасядзелі ў няёмкасці і пагадзіліся на тым, каб апрануцца ды пайсці на станцыю пеша. Часу яшчэ заставалася багата. Мой шаноўны запрашэнец вяртаўся да сябе ў Беласток. Рэчы ўжо былі на месцы, у багажні. Нават зважаючы на мытны дагляд ды ўсякую іншую важданіну, якую мусіш ператрываць перад ад'ездам за мяжу, нам можна было не спяшацца.

Зіма надарылася цёплай, як ніколі датуль. За ўвесь яе час снегу не бачылі бадай зусім. Хто-ніхто яшчэ ўздыхаў са шкадобаю, марачы аб лютых маразах і шчырай зіме. Ды марна. Мы з беластоцкім панам чуліся ёмка нават ля ёдкай чорнай ракі, што дыхала, жыла ў нас у нагах, каля вымураванага берага.

"Сэквана".

Ён памаўчаў. "Рэкі ў гарадах мне заўжды нагадваюць яе".

"Няма толькі букіністаў з кніжкамі".

Ён не адказаў.

Мне болей не было чаго дадаць. Успомніўся толькі пачатковы радок з верша "Парыж не бачыў я ніколі".





Ён прызнаўся, што яму напаніцавала праслухаць курс лекцый у Сарбоне. Аб еўрапейскіх літаратурах. Натуральна, заходніх. Беларуская не вывучаецца.

Знянацку ён зрабіў крок набок і стаў спускацца да вады, намацваючы падэшвамі прыступкі.

У адным з чоўнаў нехта сядзеў.

“Вечар добры. пане Хароне”.

“Карачун мая фамілія, каб вы зналі”, — адказаў незнаёмец на трасянцы.

“На той бераг можна?”. Мяне пытанне амаль не здзівіла, толькі трохі пацешыла абыякавая гатоўнасць, з якой гаспадар чоўна неспадзявана згадзіўся з шалёнай прапановай.

Мы, крыху прыгінаючыся, спусціліся ў спод. Вясляр, пакорпаўшыся ў кішэнях, адамкнуў замок, бразнуўшы ланцугом.

Вызваліўшыся з кайданаў. човен трапіў да зняволі валадарнай імклівай плыні.

“Крывіч. Антон”.

“Ён хіба вучыўся тамака...”

“Не зусім так. Ён цікавіўся каталонскай літаратурай. Мне спатыкалася ягоная нататка ў адным міжваенным выданні”.

“Каталонія... гэта ў Іспаніі”.

“Край з тысячагадовай гісторыяй. Як і наш. Шляхі народаў часам супадаюць, як пры пільным вывучэнні геаграфічнай мапы — абрысы адлеглых паміж сабой дзяржаў і дзяржавак”.

“Мова будзе аб гісторыі?”

“Не зусім. Колькі заўваг пра гісторыю, адбітую ў прыгожым пісьменстве”.

Увесь час ён размаўляў моваю польскіх беларусаў, г.зн. засмечанай паланізмамі. Цяжкаватай на слых яшчэ і праз сваё польскае гучанне.

Я не ставіў сабе за мэту перадаць яе асаблівасці, пішучы гэтыя радкі. Па-першае, каб пісаць нейкай гаворкай, трэба ёю жыць. А да таго ж ад часу размовы мінуў блізу год, і з памяці сцерліся фарбы словаў. Утрываліліся толькі змест гаворанага і самі падзеі, згадзіцеся, крыху небудзёныя.

“Яны страцілі незалежнасць у пятнаццатым стагоддзі. Як і чэхі. Толькі ў 1859 годзе былі адноўлены гэтак званыя “Кветкавыя гульні”. Паэтычныя спаборніцтвы. Кожны паэта





чытаў тры свае вершы. Пра Бацькаўшчыну, веру і каханне".

Яму давялося перапыніцца. Човен шкрабнуў сподам камяні. Карму пачало хіліць плынню, але човен ужо зачапіў бераг. Мы, не згаворчаючыся, выскачылі. Вузкая стужка сяродрэчнага астраўца, загрувашчанага выкінутым вадой каменнем, нагадвала крушню.

Наш вясляр гучна высмаркаўся і запаліў папяросу. Калі ён палез па пачак у кішэнь, мне на хвілю зрабілася ніякавата. Я моўчкі пасмяяўся за сябе.

Дагэтуль, па дарозе сюды, госць распавядаў пра жыццё ў Польшчы. Пра імклівы рост цэнаў, курс валют у адносінах да "златуўвкі". Я ведаў, што ён ездзіў па навуку коштам эміграцкага фонду Льва Сапегі. Мне найболей карцела даведацца менавіта пра гэта. Але ён апавядаў аб літаратуры далёкага народа. Я не наважваўся яго перапыняць.

"Занядбаную мову пачалі адкрываць наноў.

Нядошлая іспанская дзяржава гібела ў нэндзе, бачачы толькі ў снах колішнюю сваю магутнасць.

Каталонскі Рэнесанс выглядаў на падобным тле досыць кашчунным. Штосьці накшталт балю на руінах. Вайна за калоніі прайграна. Тысячы забітых маладзёнаў, мільёны змарнаваных на порах песетаў.

Не кожны меў смеласць тады, каб прызнацца публічна, што спавядае ідэі адраджэнскага руху. Імперыя хворая, а ўскраіна гэтым часам спявае свае жыццялюбныя аптымістычныя гімны!.."

Каменюкаваты лапік. Прыхамаць струменяў, што, падзяляючыся ў гэтым месцы надвое, расцяжарваліся ад прынесенага здалёк друзу, каб мкнуць далей навыперадкі.

Аснач сядзеў на кукішках і моўчкі паліў. А госць змерваў няроўнымі крокамі паверхню астраўца, пераступаючы цераз камлыгі. Апавядаў нетаропка, з паўзамі, зваротамі да мяне. Апошнія мелі збольшага рытарычны характар, таму мне даводзілася адно ківаць галавою на знак згоды. У ягоных паводзінах угадвалася некаторая схільнасць да афектацыі. А ўсё разам нагадвала сцэнічны маналог пры ўдзеле двух бязмоўных статыстаў.

Уражанне падмацоўвалі два шэрагі "дэкарацыяў", паміж якіх у цясніне праточным рэчышчам плыла рака. Калі стаяць супраць плыні, дык левабоч на грудах угадваліся рэшткі выявы





са старасвецкай гравюры з лацінскім надпісам. На працьлеглым баку краявід быў мёртвым. Змрочнасці яму надавалі паралелаграмы збудаванняў з часоў сямігодкі.

Тым часам ён пачаў гаварыць аб моўным унармаванні. Словы яго падмацоўваліся ўжо вядомымі мне прыкладамі. "Вялікаму Адаму польская прэса рабіла закіды за ягоныя беларусізмы". — "Сваяк французскага паэта "польскага" паходжання ваяваў з рэдакцыяй "Нашай Нівы" за ўласны погляд на правапіс". Нарэшце апошні перадваенны год. У Пецярбурзе нікому яшчэ не вядомым студэнтам універсітэта прачытаны грунтоўны даклад аб будучай першай граматыцы беларусаў. У далёкай жа Барселоне якраз выйшлі з друку славутыя "Арфаграфічныя нормы". Самавітая праца аб упарадкаванні лексікі, сінтаксісу ды арфаграфіі каталонскай мовы.

Пазней яшчэ адна перамога: адкрыццё Інстытута нацыянальных даследаванняў з навуковай бібліятэкай пры ім. Сотні і сотні тамоў, і ў іх — праца па гісторыі, мове, літаратуры...

Вада навокал рабацела. Цемра рабіла бераг зусім далёкім. Мы зноў плылі, падпарадкоўваючыся плыні.

Насоўваўся вялізны віядук маста. Моўчкі, ні без нутранога напружання, мы мінулі яго і неўзабаве прысталі да берага.

Выбраўшыся на зямлю і зрабіўшы каля двух дзесяткаў крокаў наперад, я натрапіў на нізкі аселы мураваны паркан.

"Яўрэйскія магілы", — упершыню ззаду прамовіў наш маўчун - лодачнік, прамовіў неяк гугнява, бо трымаў у зубах недакурак.

Я гэтага месца не ведаў і ніколі дагэтуль тут не быў.

Да мяне падышоў госць. "Той чалавек, пра якога мы згадвалі, паехаў у 19-м годзе да Парыжа з адказнай ўрадавай місіяй. Тамака ён пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай. Ужо пазней, пасля лагераў, яна пасялілася ў вашым горадзе. Жыла самотна і гэтак жа памерла.

Яна пахавана на гэтых могілках. Але я прыходзіў сюды ўчора ўдзень і магілы не знайшоў".

Дзядзька прыняў грошы са словам: "Дзякуем".

Падняўшыся наверх, мы спынілі на мосце прыватную





таксоўку. Ён ужо спяшаўся. На развітанне сказаў штосьці пра тое, што ў дзень свайго патрона Сан-Жордзі каталонцы дораць адзін аднаму кнігі. Зразумела, на каталонскай мове.

Ён не мог ведаць, што не ад'едзе начным цягніком. Яго затрымалі ў мытні, каб скласці пратакол за спробу перавезці цераз мяжу валізу кніжак, якія, па трапнай заўвазе службоўца, "в наших книжных магазинах никто не покупает".

Лямпачка, на радасць, запалілася. Вярнуўшыся дахаты, я прайшоў у свой пакой і пачаў вымаць з шафы кнігі. Пагартаўшы некаторыя, высветліў для сябе колькі цікавых рэчаў.

Перадусім, мяне здзівіла, што слова "каталіцтва" грэцкага, а не лацінскага паходжання, як я заўсёды думаў. Атрымлівалася, што назва аднакарэннага з ім краю літаральна азначае "сусвет". Мой край — мой сусвет. Вось які народ каталонцы.

Я стаў праглядаць тамок каталонскай гісторыі і спыніўся на 1939 годзе. Страта пасля грамадзянскай вайны сваёй нядоўгай аўтаноміі. Большасць літаратараў апынаюцца ў выгнанні. Удалечы ад родных берагоў. Шмат хто — да апошніх сваіх дзён. Іхныя магілы засталіся на чужыне.

Аднак яны здолелі захаваць літаратуру, мову, калі на Бацькаўшчыне тыя трапілі пад забарону. Гэта былі напраўду шчырыя пісьменнікі.

Ніхто з іх не чакаў падачак. Легкавых аўто, ордэнаў з банцікамі ...

І дагэтуль мне незразумела, чаму тады, у той год усе нашы засталіся ў Вільні. Крывіч, якога яны зняважліва абзывалі ў сваіх газетках "нацдэмам", выйшаў сустракаць іх з восеньскімі кветкамі. То быў апошні дзень, калі яго бачылі.

Праўда, адзінкам зноў пашанцавала. Ці не самы таленавіты быў наогул у ласцы і спраўна пісаў вершыкі пра Яго. Але да каталонскае літаратуры гэта ўжо не мае аніякага дачынення.








# Мар'ян Баяровіч

## Жанчыне

*раманс-прызнанне*

Я люблю цябе так, што жыву, як у сне.
Тваё імя — мне ранкам світанне
Сярод белага дня і ў начной цішыні
Паўтараю я гэта прызнанне.

Кожны дзень і цяпер цябе бачыць хачу,
Зразумей, што сапраўднае гэта жаданне.
Пазвані, я прыйду, прыбягу, прылячу,
Ты мне - свежага ветру дыханне.

Ты мой першы прамень пасля доўгіх начэй,
Ясны дзень пасля цемры мраістай,
Водар летніх садоў і крынічны ручэй,
Дзе вада з цяплынёю празрыста.

Я цяпло тваіх рук зберагу назаўжды,
Захаваю салодкасць пяшчоты падзеяй.
Ты мне вельмі патрэбна, заставайся і будзь
Маёй Верай, Любоўю, Надзеяй!




## А куды мы ідзём...

Не даклічашся болей, не кліч,
Бо на сэрцы імжа і завея,
Лепш мне чыстых пачуццяў пазыч,
Я свае без кахання развеяў.

Я цяпер прад табою раб.
Мне мінулае ўспомніць сорам,
І чаго я цягаўся да баб,
Да старых, што гадоў за сорак.

Сэрца б горкіх не ведала ран,
І не быў бы ў роздум закуты,
Я навек бы забыў рэстаран,
І крыштальнасці водар атрутны.

Я б гарэлкі не браў бы і ў рот,
Але дзе там...?!
Калі смага і стома,
Бо што дзень у жыцці паварот,
А куды мы ідзём — невядома!

## Тост за жанчын

*Паводле Фазу Аліева*

Калі я планета,
Тады жанчына неба нада мною,
Якая вечна корміць шар зямны
Пяшчотай і цеплынёй сваёю.

А калі сам я — неба,
Яна ў ім Сонца і пачатак усяго,
Рухомага, гучнога і жывога,
Таго, што тычыцца яго.



Калі крынічка я,
Яна вада бурлівая ў горных высях.
Відовішча няма смутней,
Калі ручэй маўчыць — ён высах!

Калі арол я,
Яна патрэбна ў маім палёце,
Як спадарожніца мая,
Як крылы ў дружным узлёце.

Хачу заўжды, каб было неба,
Хачу, каб сонца кожны дзень свяціла.
Зачу, каб сэрца маладзіла
Бурлівая крынічная вада.

Хачу, каб узляцеў арол туды,
Дзе пяруны з маланкаю бяруць пачын,
А гэта значыць,
Што тост мой — за жанчын!







# Янка Брында

## Мая Радзіма!

Мая Радзіма, як цябе кахаю,
Безпакутнае трыванне табе я жадаю;
Ласкі, спакою, шчасця без меры,
Табе самага лепшага жадаю веры!

Жыві ты заўсёды ў сэрцы маім,
І не развейвайся, быццам ты дым.
Дзе бы ні быў я: за мяжою, ці ў хаце,
Якое б не меў я бы там і багацце,
Заўсёды жывеш ты ў сэрцы маім!
Жывеш ты ў шчасці, а таксама ў нядолі,
За гэта цябе люблю яшчэ болей.

## Беларусь мая клапатлівая

Беларусь мая клапатлівая,
Быццам жальба, пяе жаласлівая.
Колькі ворагаў ты пабачыла,
І ні разу прытомнасць не страціла,
Як не нішчыў цябе вораг люты,
Ты адпомсціла ім за пакуты,
За любоў, за дзяцей.
Колькі ж тысяч забіў ён людзей?!

І ўсяроўна ты несмяротная,
Бо ў цябе ёсць сіла народная.
Сіла народа – мова душы,
Ласка, свабода, ты ж паглядзі.
Толькі ці доўга будзе для народа:
Мова, край мой, прырода?!
Колькі б не жылі мы з табой,
Беларусь – ты назаўжды край мой!







І не аддам я цябе за грашы,
А ні ненавіснікам, аніводнай душы.
Сэрцам сваім прыпаду да цябе я,
І не здарыцца з намі ніякай падзеі.
Колькі б не жылі мы з табой,
Беларусь – ты назаўжды край мой!

## Хвала Хрысту!

Езус Хрыстус Уваскрос: Хвала!
Хутка шчасце к нам прыйшло;
У ва ўсіх гімнах пяём: Хвала!
Песняй усхваляем Яго!

Езус Хрыстус – Збаўца і Пан!
Гэта Ён, прынёс нам навіну:
Веру, ласку і Сам
Ён з любоўю зышоў на зямлю.

Потым даў нам вернасць,
Веру да Духа Святога.
Зноў ж даў міласэрнасць,
І пашырыў веру ў Бога.

Езус Хрыстус - наш Валадар!
Даў Сябе Ён для постаці хлеба
І віно, на Святочны Дар,
І Сам Ён вярнуўся да неба.

Дык збярэмся ж усе мы разам,
Богу скласці віншаванне.
"Дзякуй" , — усе Яму скажам,
За Змартвыхпаўстанне!






# Уладзімір Васько

## Кавалер

Домік яго стаіць непадалёку ад аўтобуснага прыпынку, пры лесе. Ад дарогі ён затулены густым зараснікам сліўняку і старою раскідзістаю антонаўкай, трэснутай пасярэдзіне і расхіленай на два бакі. Абедзьве палавіны гэтага дрэва падперты тоўстымі дубовымі рагацінамі, неглыбока ўкапанымі ў зямлю.

Невялікі садочак акаймовае і ўсю пабудову, пакінуўшы толькі вузкую зарослую травой, старую дарожку, якая вядзе на падворак. Ад садочка да лесу ляжыць маленькі лапінак зямлі, на якім гаспадар садзіць бульбу ці сее ячмень.

Паміж гэтымі лапінкамі зямлі і лесам уецца вузкая, паглыбленая ў мурог сцяжынка. Як толькі на прыпынку спыняецца аўтобус і на сцяжынцы з'яўляюцца дачнікі, ад доміка гаспадара аддзяляецца стары кудлаты сабака Жаўцяк, і, задраўшы ў гору галаву, доўга і абыякава брэша на прахожых, стараючыся нагадаць ім больш аб сваіх сабачых абавязках, чым напалохаць іх. Усім сваім выглядам ён гаворыць: мая справа брахаць, а ваша ісці і не зважаць на мяне ўвагі.

Адбыўшы павіннасць, Жаўцяк зноў, як толькі аддаляюцца дачнікі, бяжыць у сваю пасівелую ад сонца і дажджоў будку і кладзецца на праляжалую да дошак салому. Рыпенне тармазоў аўтобуса выпрацавала ў ім умоўны рэфлекс, падуладны якому Жаўцяк паўтарае такое свае аднастайнае сабачае служэнне на працягу цэлага дня.

Імя гаспадара Аляксей, але завуць яго ўсе проста Ляксей. Язык у Ляксея тонкі і вузкі, як у птушкі, і пры размове заўсёды выскоквае з рота. І гаворыць Ляксей з нейкім прысвістам і прыспевам, нібы шчабеча верабей. Асабліва гэта праяўляецца, калі ў слове трапляюцца літары "с" ці "з": сі-сябака.

Звонку Ляксей таксама падобны на птушку, найбольш на жаваранка. Нацягнушы нізка на вочы кепку, з-пад якой тырчыць востры, гарбаценькі, нібы дзюба, носік, маленькімі шэрымі вочкамі ён стрыкае на людзей і, здаецца, стукні хто-







небудзь у гэты час у далоні ці тупні нагой, як Ляксей узляціць угору.

Ляксей звычайна ездзіць у горад прадаваць яблыкі. Сарты ў яго не вельмі зайздросныя: усё папінка ці іншая кісляціна, ну, і яшчэ гэтая антонаўка. Цану ён таксама не вельмі завышае, аддае міску яблыкаў за "зубра".

Расфуфыраныя гараджанкі фанабэрыста адварочваюцца ад Ляксея, нібы баючыся запэцкаць сябе аб яго. Ягоны няголены твар, плюгавы выгляд і гэты птушыны прысвіст, суправаждаемы кволым феерверкам слюны, як быццам абражаюць іх. Затое працейшыя людзі купляюць у Ляксея яблыкі ахвотна і з задавальненнем.

Неяк пажылы дачнік Нагорнік, як знаёмы з Ляксеем па паездках у адным аўтобусе, спыніўшыся ля століка, спытаў:

— Ляксей, што так танна прадаеш свае яблыкі? На ўсё ж павышаюцца цэны, а ты?..

— А я не буду павышаць. Мне абы хутчэй іх прадаць, бо псуюцца... Мне грошы патрэбны на хлеб, а не яблыкі. Яблыкаў не наясіся...

— Большая цана — больш было б грошай, — заўважыў Нагорнік.

— Купляць не будуць... — развёў рукамі Ляксей.

— А чаго гэта ты не пабрыўся? Сёння ж свята... — не адставаў Нагорнік.

— Брытваў няма.

— Як няма?

— Проста няма. Кожны дзень ва ўсе магазіны заглядваю — і не бачу брытваў.

— Няхай жонка купіла б.

— Сі-і-і... Я халасцяк.

— І што адзін-адным жывеш?

— Адзін.

— А дзе бацькі?

— Паўміралі.

— І што, нікога-нікога больш няма?

— Ёсць сі-сястра, але яна далёка, — са шкадаваннем прамовіў Ляксей.

— Як далёка?

— Дале-ё-ка... аж у Скідзэлі.

— Дык хіба ж гэта далёка?

— Дале-ё-ка... Я туды не заеду. Грошай няма.

— Прыязджае калі?

— У тую нядзелю была, але мяне дома не застала. Яблыкі прадаваў.





— Вось як...

Ляксею ўжо за пяцьдзесят. У маладосці ў яго не вельмі добра атрымлівалася з дзяўчатамі — усе давалі ад варот паварот. А цяпер ён стаў і зусім баяцца жанчын. І нават прызнаўся ў гэтым Нагорніку.

— А ты не бойся іх, — падбадзёрыў Ляксея Нагорнік. — Смела падыдзі, прапануй — і ўсё. А ўжо яе справа, як рашаць. Пойдзе, то пойдзе, а не, дык не. Што тут зробіш?.. На прыкмеце ўсё ж хто-небудзь ёсць?

— Ёсць адна.

— Ну вось. Не губляйся!

У гэтую нядзелю Ляксею ўдалося даволі хутка прадаць яблыкі. Ад грошай у яго нават крыху адтапырылася ўнутраная кішэня пінжака. Вясёлы і ўзбуджаны, ён пакінуў рынак і накіраваўся ў бок аўтобуснага прыпынку ехаць дамоў, але не прайшоў і паўдарогі, як заглядзеў па правай руцэ чаргу па піва. "А чаму б і мне не выпіць? — прыкінуў сам пра сябе Ляксей. — Грошы ў мяне ёсць. Не так часта я і выпіваю піва".

Ляксей напружыўся, каб прыгадаць, калі гэта было ў апошні раз, але так і не змог адкапаць у сваёй памяці ні таго дня, ні нават таго года.

Ён збочыў з дарогі і стаў у чаргу. Чарга рухалася не вельмі хутка: піва моцна пенілася, б'ючыся аб дно куфляў, і прадаўшчыца давала яму адстойвацца, а пасля яшчэ падлівала. Аднак Ляксей набраўся цярпення і моўчкі стаяў і чакаў. І ўсё было б добра, калі б не прыйшла "група захопу", пра якую Ляксей нічога не ведаў і якая дужа сапсавала яму настрой. Чалавек сем падвыпіўшых дзецюкоў аглядзелі чаргу, выбіраючы ў ёй самае слабае месца. І, як на зло, гэтым самым слабым месцам — звяном аказаўся ў ёй Ляксей.

Мажны і нахабны з "групы захопу" хлапец пачаў уціскацца ў чаргу паміж Ляксеем і такім жа замардаваным, як ён, чалавекам, які стаяў перад ім і быў ужо амаль каля прылаўка. Ляксей спачатку ціха і асцярожна забурчэў, загугнявіў нешта сабе пад нос, а пасля не на жарт распішчаўся, рассвістаўся, даказваючы нешта сваё з уласцівым яму абвостраным пачуццём справядлівасці, але "захопнік" рашуча адвёў локаць сваёй правай рукі назад, пасля рэзка сунуў яго пад нос Ляксею, амаль не стукнуўшы, — і Ляксей змоўк, "знік". Ён аглянуўся назад, на тылы, спадзяючыся на падмацаванне, але тылы яго не падтрымалі ні фізічнай сілай, ні нават словам. І Ляксею прыйшлося сцішыцца, праглынуўшы крыўду, і яшчэ з паўгадзіны стаяць і чакаць, пакуль не выбера сваё піва "група захопу", ставячы на столік куфлі аж да тае пары, пакуль на ім





не аказалася ні аднаго "жывога" месца.

Нарэшце каля прылаўка апынуўся і Ляксей. Прадаўшчыца падпіхнула да яго поўны, з пеністай шапкай на версе, куфаль піва і нават спачувальна ўсміхнулася.

Ляксей з асалодай прыпаў да куфля і марудна, маленькімі глыткамі піў свежае, ап'яняючае піва. Залпам ён не мог асушыць куфаль — гэта яму было не пад сілу. Ён і памалу ледзьве адолеў яго да канца.

Захмялеў, размякчэў Ляксей, свет для яго стаў ружовым, напоўніўся хараством, людзі добрымі, усмешлівымі, вуліцы і дрэвы прыгожымі. Навакольнае жыццё падалося райскім. На аўтобусным прыпынку Ляксей расхрабрыўся і захадзіў пеўнем. Ён ужо вёў сябе не так, як раней, калі амаль усіх прапускаў наперад, тулячыся ззаду, а рашуча расштурхоўваў натоўп і прабіраўся да дзвярэй аўтобуса. У аўтобусе ён па-арлінаму акінуў позіркам пасажыраў, прыглядваючыся, ці няма сярод іх каго-небудзь знаёмага. Каля сярэдніх дзвярэй Ляксей убачыў Аршулю, хутаранку, якая жыла за паўкіламетра ад яго дома і да якой ён калі-некалі заглядваў "на целявізар". Ляксей раптоўна азарыўся, кроў зайграла ў яго жылах. Расштурхоўваючы ў бакі людзей, ён прабіраўся да Аршулі...

— Асцярожна! — абурылася на яго пажылая пульхная жанчына, якой ён наступіў на нагу.

— Нічога! Нічога! — сказаў Ляксей. — Вытрымаеш! Нахабства — другое шчасце, — ні з таго ні з сяго дабавіў ён.

Што нахабства — другое шчасце, ён гэта паспытаў на сабе, стоячы ў чарзе. Жанчына нешта яшчэ сыпала ўслед Ляксею, але ён не рэагаваў на яе словы, а ўпарта прабіваўся да Аршулі. Нарэшце дабраўся.

— Аршуля, ты? — штурхнуў ён яе ў бок. — Што, на рынку была?

— Не, да сына прыязджала.

— Аршуля, я цябе кахаю! — зноў ні з таго ні з сяго залапатаў Ляксей.

— Ты што, Ляксей? Напіўся, мусіць?

— Яй-богу кахаю! І хачу жаніцца!

— Сціхні, Ляксей! Людзі ж чуюць, смяяцца будуць.

— Няхай смяюцца. А што мне людзі?! Дык пойдзеш за мяне замуж ці не?

Ляксей яшчэ доўга прыставаў да Аршулі пад смех людзей, і жанчына ніяк не магла яго супакоіць. А вылезшы з аўтобуса, ён не павярнуў дамоў, як звычайна, а паспяшыў следам за Аршуляй і яшчэ адной жанчынай, таксама хутаранкай, якая ішла побач з ёю. Ляксей у сваіх доўгіх штанах, з закасанымі




калошамі, і такім жа доўгім пінжаку, з закасанымі рукавамі, у пакрыўленых туфлях, з вялізнай пустой сумкай у руцэ ўсё забягаў наперад жанчын, заглядваў у вочы Аршулі і пытаў:

— Пойдзеш ці не?

— Адстань, Ляксей! Як цвярозы, дык маўчыш, а як выпіў, дык прыстаеш.

— Я хачу ведаць.

— Ат, адстань!

Аж за лесам жанчыны ледзьве адшылі ад сябе Ляксея. Але ён на гэтым не супакоіўся. Вярнуўшыся дамоў, ён наліў адну міску булёну Жаўцяку, і, вынесшы на двор, паставіў каля будкі, а за другую ўзяўся сам. Апаражніў яе імгненна, са смакам, бо адно, што прагаладаўся, а другое — піва прыдало апетыту.

Выцер Ляксей вусны ручніком, паправіў перад люстэркам кепку на галаве і выйшаў да Жаўцяка. Жаўцяк усё яшчэ вяла нахіляўся над сваёй міскай і не хацеў есці. З суседняга хутара, які размяшчаўся амаль побач і ў двары якога стаялі дзве імпартныя легкавыя аўтамашыны, даносіўся пах смажанай курыцы і дражніў апетыт Жаўцяка. А тут, пад носам, шарэў халодны, нішчымны, пракіслы булён...

— Ну што, ніяк не можаш кончыць? — запытаў Ляксей у сабакі.

Жаўцяк маўкліва падняў галаву і жаласліва, запытальна глянуў свайму гаспадару ў вочы. "Абрыд мне твой булён, — гаварыў яго позірк. — Кожны дзень адно і тое ж... Хоць бы раз кавалак мяса прынёс".

— Ведаю, ведаю, — працягваў Ляксей, — хочаш мяса. Курыную б ножку, га? Але дзе я табе яе вазьму. Я і сам многа гадоў мяса не каштаваў. Ну, добра, Жаўцяк, сцеражы пакуль мой дом. Мажліва, калі-небудзь і мы зажывем лепш, тады лепш і харчавацца будзем. А зараз я пайду на целявізар, да Аршулі. Не сумуй, Жаўцяк! Да вечара я вярнуся.

Ляксей мякка нахіліўся, пяшчотна і жаласліва абняў далонямі Жаўцяка за галаву і моцна пацалаваў яго ў лоб.








# Леанід Вінік



* * *

Што адпушчана доляй,
Возьмеш — меней ці болей —
сам,
твайго не ўрвуць.
Але ўсё ж не марудзь.

Красавік на заходзе
Абцягнуў неба ў замш.
І дзяўчынка выходзіць
Не на вуліцу — замуж.

Злосны, шчыры з аблічча
(ты ж у злосных не вер!)
Не заўжды, як паклічаш,
Дык пазвоняць у дзвер.

Сном увойдуць прарочным,
Уяўленнем ці з'явай
і каханыя вочы,
і суседзі, і справа.





І найлепшай прыгоды
Не заўважыш прыходу,
І прапусціш праз рукі
Без лішняй дакукі.

(Пераклад з расейскай мовы
Дануты Бічэль-Загнетавай)

* * *

Не дацягнешся
да зоркі ў расе,
Пад вялікім даждом
не пагрэеш рукі.
Але нітка
адлётных гусей
Не патоне
у дажджы разлукі.

Гэтай ніткі
рукой не кранеш,
Хоць пакуль што
чысценькім ходзіш.
Зорка знікне
ў жыце на дне,
Ты шукай - не шукай —
не знойдзеш.

Зорка знікла ўжо —
не падняць,
Пацямнелі ў полі
пакосы.
І табе ў начы
не суняць
Ні дажджы, ні вятры,
ні слёзы...

(Пераклад з расейскай мовы
Дануты Бічэль-Загнетавай).






# Яніна Догель



## Люблю цябе, мой край

І салаўіны гай,
І сінія аблокі,
Люблю цябе, мой край,
Азёрны, сінявокі!

Вясёлкавы дыван
На лузе тым квяцістым
І ранішні туман
З ракою серабрыстай.

І ў полі васілёк,
І сонца ў небе ясным,
Вясёлым той куток,
Дзя я радзіўся шчасным.

## Жыве Беларусь!

Жыве Беларусь! Дый жыве!
Жыве мой радзімы куток!
Мова людзей дый жыве,
Хоць вораг іх жаліў у бок.




Жыве Беларусь! Дый жыве!
Жыве чалавек больш паўвека.
І кожны крок чалавека!
Усё, што, можа, жыве!

Жыве Беларусь! Дый жыве!
Жывуць яе хаты і вёскі.
І дзялка, пад рухам рукі – жыве,
Тады маці паставіць на снеданне клёцкі.

Жыве Беларусь! Дый жыве!
І кожны беларус таму рады.
Яна заўсёды жыве,
Ці бедны ты, ці багаты.

Жыве Беларусь! Дый жыве!
І Дух святы ў ёй вітае.
І той, хто не бачыў краіны мае,
Яна шчыра вас усіх запрашае!

## Дождж

Сонца яснае праспала:
З неба хмарак не прагнала.
Вось яны і грамадою
Пояць нас жывой вадою.

Капае вада і льецца,
Траўка кожная смяецца,
Бо ў вадзе патрэбу мае,
Без яе ўраз засыхае.

Кветкі, быццам матылькі,
Усе галоўкі падцялі.
Дрэўцы ў лесе, агародзе –
Рады ўсе такой пагодзе.

Мокнуць елкі і дубы,
Узнялі шапачкі грыбы.
Выганяйце ў поле статак:
І кароўкам траў дастатак!









Юры Карэйва

## Мне Мова — Божым Словам

1. Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам. <...> 4. У ім было жыццё і жыццё было Святлом людзей. <...> 9. Было Святло сапраўднае, Якое прасвятляла кожнага чалавека, што прыйходзіць у свет. <...>. 14. І Слова стала плоццю, і ўсялілася ў нас, поўная мілаты і праўды...

*Паводле Яна Святое Дабравесце.*
*Раздз. I.*

Мне мова — Божым Словам,
мне слова мовы — Бог.
І нам ад духа злога
Яго наш Бог збярог.

Мне Слова — ад Скарыны,
ад слоў святых яго,
каб злыдні не скарылі,
не спламяніў агонь.

Таму яно — Святое.
Яго нам Бог слаў звыш.
Хто памятаў пра тое,
Той смела йшоў на крыж.

А хто зракаўся мовы.
Той кару ў тым знайшоў,
праклёнам пяруновым
даўно на дым сыйшоў.

Святое ж моцы Мовы
парушыць не змаглі,
змагалі зноў і знову —
і ўстала з тла, з зямлі!

І слова з тла паўстала
і паміж нас жыло ...
Ды зноў прыйшла навала
звясці Яго на тло.

Ізноў, мой Божа мілы,
ліхі прадажнік – хам
грукоча, што ёсць сілы,
ў Святое Мовы Храм.

Ён здзекуецца з Мовы,
Якое ў Ім služу,
ён прагне чорным словам
спаганіць мне душу.

Не чуе просьб, ні грозьбаў,
што хмары шлюць з Нябёс.
Зліюцца мае просьбы
з дажджом Хрыстовых Слёз!

Ён мне з пакутных Ранаў
дашле Свайго Святла!..
Я Словам на тыранаў
паўстану нават з тла!

15.06.98г.

* * *

Не ўскрай дарогі, не з камення,
не цернем — Словам узыйду!
Хай пад святлом яго праменным
гарыць на тло, на дым злы дух.

Мне Слову здрадзіць — горш ад смерці:
бо мову ж маці мне дала,
каб даражэй за ўсё на свеце
на ёй малітва мне была.





Таму маўчаць не маю права,
калі ў Святое злыдні тнуць,
мне трэба здраднікам крывавым
адкрыта ў твары зазірнуць.

Цяжкі Крыжовы шлях Хрыстовы
дай, Божа, вытрымаць, прайсці.
каб Твае словы — Праўды Словы
збалелым сэрцам данясці.

Я да Святла Твайго Прамення
свой шлях між церняў пракладу.
Не ўскрай дарогі, не з камення,
а з сэрцаў Словам прарасту!..

16.06.98г.

* * *

... Ці скажа з вас хто,
куды мне вяртацца
ад тых,
што згубілі тут мову,
сумленне і сцежку?

Пытаюся шляху ў людзей:
гэты не ведае,
той — гэтак сама,
а той вунь
хавае пад пахаю
камень.
бо ведае ж, пэўна!

Калі ж падступлю
да яго хоць на крок,
то ён каменем гэтым
кіне мне ў голаў.
Ці скажа з вас хто,
куды ж мне вяртацца?..
11.06.98г.




* * *

Будзе дзень можа самы мой лепшы...
Застанецца навечна ў тым дні
Крок мой лёгкаю сцежкай няспешны,
поўны раніцы і цішыні.

І адчую зусім нечакана
паміж радаснай той нематы,
як з душы, бы з глыбінь акіяна
выплывае жаданы матыў.

І ў абсяг гэты шчыра ўлюбёна
будзе ўсё ўжо ўва мне тут спяваць,
будзе слёзным дажджом ліцца з клёнаў,
росным сонцам над імі ўсплываць.

Што журыцца над жнівеньскай краскай
па былым — прыжадаю вясны!
Ах, як трэба мне гэтаю казкай
наталіць свае явы і сны!

Так адчайна адчуць сваю існасць
і адкрыцца пад небам наўсцяж,
каб усё запаветнае вызнаць
на шляхах незваротных жыцця.

І ўсміхнуцца і ўспомніць, як колісь
парываўся наспелы з душы
першы верш, як ірваўся мой голас
да ўсяго, з чым вітаўся ды жыў.

І да кроплі з табою зрадніцца,
святлом вымытая вышыня,
каб сталіцца натхнення крыніцай,
каб рунела радкоў збажына...











# Святлана Кухарэвіч

* * *

Мне нічога не трэба, нічога.
Мне не трэба чорных вачэй.
Чорных дзір і без гэтага многа
У чарадзе бяссоных начэй.

Мне не трэба тых простых слоў,
Што пяшчотаю абдымаюць!
Мне не трэба балючых сноў,
У якіх мае мары канаюць.

... Не магу без цябе! Не магу!
І ўдзень, і ўначы...Ты!
Мне нічога не трэба. Мне не ...
Мне нічога ... Палю масты.

І калі паўночнае неба
Мяне абаў'е,
Мне нічога, нічога не трэба!
Хіба, рукі твае?!.

20.07.98г.




## Гораду

I

Табе таксама не заснуць
Сягоння ноччу, як і мне.
Ты робіш выгляд, быццам спіш,
Чакаеш: ноч хай праміне.

Сумуеш ціха. Не шуміш
Лістотаю дваровых дрэў
І шорганнем машынных шын.
Маўчанне - твой самотны спеў.

II

Прымі мяне ў свае абдымкі,
Ўсміхніся мне неонавай рэкламай,
Сустрэнь на вуліцах знаёмых
І дакраніся да майго пляча.

Я вып'ю слёзы з твайго твару
І да рукі тваёй я прытулюся
Шчакою. Нават не заўважу,
Што не рука гэта - сцяна.
04.08.98 г.

## Згуба

Растраціла цэлае лета,
Размяняла чамусці яго
На мноства дробных манетак,
Ды адна засталася ўсяго.

А цяпер мне ні сну, ні спакою:
Сняцца, сняцца адны медзякі.
Як жа здарылася такое?
З чыёй нядобрай рукі?

Я вандрую, вандрую па памяці...
Я шукаю, шукаю і...
Успаміны заходзяцца болем,
Што давядзецца траціць і іх...
21.08.98 г..







# Дажджынкі

Людзі! Навошта вам зброя?
Ён жа такі бяскрыўдны!
Давайце , страляць не будзем
Парасонамі ў паветра.
Ён жа зусім маленькі,
Хоча гуляць з намі.
Дотык яго - знаёмства
І запрашэнне ў госці.

* * *

Я слухала мелодыю,
Яна лілася з неба
Хвалямі летняга дажджу.
Яна плыла па вуліцах
І асядала ў лужынах.
Незабыўны рытм яе
шукайце ў гэтым вершы.
16.06.98 г

* * *

Чалавек сядзіць на дарозе.
Ён сціскае грудзі далонямі.
Сцяною ільецца дождж.
Жудасны крык пранізвае,
Рассякае сцяблінны вады
Раптам ён змяняецца
Істэрычным смехам,
Які пераходзіць у глухія стогны.
На твары чалавека ўжо
не дождж, а слёзы.

..Гэта роспіс жыцця на яго лёсе
7.07.98 г.

 





# Вера Ляцецкая



## Верасы

Вітаю, родныя мясціны.
Дубы над Нёманам, лясы.
І вас, грыбныя баравіны,
Дзе зацвітаюць верасы.

Над імі рой пчаліны ўецца,
Пахне мёдам і смалой.
І так шчасліва сэрца б'ецца,
Бы той далёкаю вясной.

Даўно хацелася спаткацца,
Дыван ружовы разгарнуць.
Удосталь, смачна наўздыхацца,
Пад хвояй ў цяньку заснуць.

І не магу ніяк расстацца...
Сцяжыначкай лясной іду.
І каб яшчэ разок спаткацца,
Галінку верасу бяру.

Свой родны кут не забываю,
Дзе дні дзяцінства працяклі.
Дзе Нёман плаўна коціць хвалі,
Цвітуць у лесе верасы.







## Турботы Зямлі

Вясна ў прыродзе верхаводзіць,
Промні сонца шле ў дазор.
Жаўрук свой срэбны спеў заводзіць
З ўсходу сонца аж да зор.

Гром, бы са столі калясніца,
Па наваколлі пракаціў.
Каб не заспалася зямліца,
Яе на працу разбудзіў.

А працы ў зямелькі многа:
Сагрэй зярнятка, прарасці
Ды песці, як сынка малога,
Пакуль успее падрасці.

А падраслі — ізноў турбота,
Каб выспеў у тэрмін каласок.
У зямелькі - маці шмат работы,
Каб ураджайны быў гадок.

## Браты

*(Легенда)*

Май, Сакавік, Красавік
Паміж сабой жывуць не ў згодзе.
Варожа, скажам напрамік,
Легенда выспела ў народзе.

Я ўсё вам раскажу, як ёсць.
Гэта было ў старыну сівую
К Сакавіку імчыцца госць:
Брат Красавік з сям'ёй шыбуе.

А Сакавік сквапнюга быў.
Пачуўшы рана лёскат колаў,
Ён снежнай бурай завіхрыў:
"Ты брат не ездзі у госці болей."




Мінула многа вёсен, зім...
Зноў Красавік да брата едзе.
На гэты раз ужо адзін.
Дзяцей пакінуў у суседзяў.

Браток, пачуўшы скрып саней,
Расплавіў лёд, разліў і рэкі.
Не любіць ён радні сваей,
Мабыць, характар мае гэткі.

Сярэдні брат сустрэўся з Маем,
Малодшанькаму крыўду расказаў.
Май брату роднаму параіў,
Каб ездзіць у госці перастаў.

Браты з часоў тых даўніх не сябруюць,
Набегі робяць, грабяжы.
Са снегам ветры ў маі дуюць,
У сакавіку ідуць дажджы.

## На адпачынак у “Нарач”.

Ехаў Янка адпачыць. Жонка не пускала,
Бо натуру Янука здаўна разгадала.
Нарач Вось куды заплыў,
Янук – выпівоха.
Грошай мала зарабіў,
Хапнуў у жонкі троха,
Ды не страшна, без бяды,
Недзе пажыўлюся.
А калі не, то што тады,
За што пахмялюся?
Каля возера Янук
Даўно спацыруе.
Раптам чуе крокаў гук,
Можа пашанцуе.
Азірнуўся, далібог, нейкае стварэнне.
Апранута, не сакрэт, у добрае адзенне.







Ды лягнула, бы цяля. Яна паглядае.
Божа ж мой, ды то ж Яна,
Хоць не маладая
Да жанчыны Янучок бокам, бліжай, бліжай,
Нават паказаў значок чэмпіёна лыжаў.
Ён стараўся, як мага,
Спадабацца бабе.
Баба тая, Качарга,
Відаць, грошы мае.
Не ідуць, ляцяць дзянькі,
Янучок гуляе.
Разам з Бабаю Ягой есць і выпівае.
За закуску і віно сама яна плаціць.
Што ж! Няхай сабе. Дарма.
Грошай ў мяне хваціць.
Кажа Янучок: "Пасля, потым разлічуся".
І падумала яна: "Можа абручуся!"

Надышоў апошні дзень.
Час дамоў збірацца.
У кашальку яе рубель.
Неяк змог схавацца.
Да Янулі прэ, дзе жыў.
Пара разлічыцца.
А, яго і след прастыў,
Ён дамоў імчыцца.

Ёсць яшчэ ў нас, на жаль, Янукі такія
А бабу гэтую не жаль,
Пацягнуць бы кіем!








# Дзінара Мазітава

**ТРЫЯЛЕТ** 25.05.97г.

Сэрца - лёд, душа — вада...
Халадзее ў міг яна ...
Вось яна любоў твая...
Сэрца — лёд, душа — вада...
Хутка прыйдзе іх пара,
Зіму — гоніць да двара.
Сэрца — лёд, душа — вада...
Замярзае ў міг яна...

**ТРЫЯЛЕТ 2.05.97г.**

Распусціла лета лісце,
Разлілося па дарогах.
Панагорна і паніца,
Над страхой і пад парогам.
Распусціла лета лісце,
Над пакосам і над стогам.
Распусціла лета лісце.
Разлілося па дарогах.







**ТРЫЯЛЕТ 2.05.97г.**

Пад намі, людзі, ёсць і свет,
І цемра, і поле пустое.
Над намі, праўдаю звініць
Дажджынка і неба святое.
Пад намі, людзі, ёсць і свет...
Зразумець цяжка такое.
Пад намі, людзі ёсць і свет,
І цемра, і поле пустое.

**ТРЫЯЛЕТ 4.05.97г.**

Вечарам сумным адвесь занавескі,
Глянь на паўночную бляклую пляму.
Ўжо ўсе заснулі, і людзі, і вёскі,
Бязмежнага ціхага неба — палотны.
Вечарам сумным адвесь занавескі.
Зоркі з'яўляюцца ў небе самотна,
Вечарам сумным адвесь занавескі.
Глянь на паўночную бляклую пляму.

**ТРЫЯЛЕТ 3.05.97г.**

Як добра ў цёплай хаце
Зімоваю парой.
На вуліцы марознай плачуць
Дрэвы пад карой.
Як добра ў цёплай хаце
Сядзець у цішыні адной.
Як добра ў цёплай хаце
Зімоваю парой.





**ТРЫЯЛЕТ 3.05.97г.**

Злуецца лютасны мароз —
Ахвяр жыцця не знае
І вецер злосны ўміг, як раз
Усё жыццё здувае.
Злуецца лютасны мароз,
Здалося, восень памірае...
Злуецца лютасны мароз —
Ахвяр жыцця не знае.

**ТРЫЯЛЕТ 3.05.97г.**

За даляглядам, за аблокамі,
Там, дзе канчаецца ўвесь свет
Жыве душа мая і спачывае
Замкнуты ў ёй адзін паэт.
За гарызонтам, за аблокамі
Схаваны вечны мой сакрэт.
За гарызонтам, за аблокамі,
Там, дзе канчаецца ўвесь свет.

**ТРЫЯЛЕТ 3.05.97г.**

Адзіноцтва — сімвал вечнасці,
Несправядлівасці і зла
Краіна гора і бязмежнасці
Так блізка, блізка ты была.
Адзіноцтва — сімвал вечнасці,
Надзея да цябе сышла.
Адіноцтва — сімвал вечнасці,
Несправядлівасці і зла.







## ТРЫЯЛЕТ 26.04.97г.

Восень... Змярцвела жыццё...
Сэрца раз-пораз спыняецца...
Не цячэ ў жылах кроў.
Душа адыходзіць спяшаецца.
Восень... Змярцвела жыццё...
Здаецца, святла ўжо не будзе...
Лісце з шэптам адносіць быццё —
І за імі ў дагон бягуць людзі ..

## ТРЫЯЛЕТ 3.05.97г.

Сядзіць дзяўчынка ля акна
Справядлівасць ёй імя.
Душа і думка ў ёй твая,
Не сходзіць з вуснаў іх сям'я.
Сядзіць дзяўчынка ля акна,
Як добрая да ўсіх яна...
Сядзіць дзяўчынка ля акна,
Справядлівасць ёй імя.

## ТРЫЯЛЕТ 18.04. 97г.

Сняжынкі ціха падаюць на дол
І снег з нябачнай хуткасцю кладзецца
І ціха, светла, падаюць у далонь
І ад цяпла снег кроплямі стаецца
Сняжынкі ціха падаюць на дол
Ўсе белай коўдрай накрыта.
Сняжынкі ціха падаюць на дол,
І неба цішынёй заліта.









# Ганна Маркевіч

* * *

А мне так хочацца лятаць!
Мне толькі б месяца рукой крануцца.
А там - хоць знічкай уніз упасці на зямлю!
Але няхай кавалачкі святла
У маім дзявочым сэрцы застануцца,
Бо мне ж так хочацца лятаць.

А мне так хочацца лятаць!
Ды нехта паглядзіць і глуха.
Напэўна, вымавіць: "Дурнуха!"
А мне так хочацца лятаць!

Усё ж, мне хочацца лятаць.
Хай хтосьці і бурчыць: "Юнацтва!
Што запяе гадоў праз -наццаць?!"
А мне так хочацца лятаць!

Мне ж вельмі хочацца лятаць!
І я не веру, што калісьці
Я гэта пачуццё забуду
І больш на зоры пазіраць не буду,
І больш не буду месяц выглядаць,
І мне не схочацца лятаць.







# Мой прынёманскі край

Тут дзяцінства маё
праляцела імкліва,
І мяне зразумее
тут кожная кветка, бадай.
Як люблю я цябе,
мой дзівосны і мілы,
Мне навек дарагі,
мой прынёманскі край!

Я стаю ў захапленні
ля старае івы,
Не адводжу вачэй
ад блакітнай вады,
А за рэчкай, што стужкай
узгоркі абвіла,
У промнях сонца вясноўага
тонуць сады.

І не выказаць у словах
пяшчоты і ласкі,
Бо няма такіх слоў,
і шукаць іх дарма.
Мой прынёманскі край,
ты — вясновая казка,
І куточка мілей
ва ўсім свеце няма!






# Алена Майсевіч

* * *

Хай гады налічвае няўмольна
На старой паліччы каляндар.
Вольны застанецца вечна вольным
Чалавек то ці зямлі абшар.

Маладосць працягнецца да скону
Толькі там, дзе ў сэрцы – вечна май.
Дзе не засціць зайздрасць хмарай чорнай
Сонцам расквітнеўшы небакрай.

Для таго ж, хто з прагнасці адвечнай
Сонца пахавае ад людзей,
На зямлі няма ніводнай рэчы,
Што рабіла б сэрца маладзей.

На зямлі няма ніводнай мэты,
Што апраўдвала б людскую кроў.
Чалавекам будзь да скону свету.
Чалавекам! Нават між звяроў.

* * *

Кахання хвілі зніклі ў небыцці.
Таго, вялікага, адзінага ў жыцці,
Што дорыць свет, нябачных воку зор
І ахінае ўвесь зямны прастор,
Што ажыўляе сэрца для надзей,
Што сустракаецца, на жаль, усё радзей.







* * *

Чалавек – бяскрылае стварэнне,
Ды нябёсы цягнуць да сябе.
Аж да нашых дзён з часоў стварэння
Дорыць небу мары і імкненні
Сілы аддае ён барацьбе.

Колькі лепшых ўжо сыноў, зямліца,
Аддала ты небу назаўжды.
На зямлі стаяць на іх капліцы
Ды лятаюць душы па прывычцы
У небе, дні складаючы ў гады.

* * *

Заварожвае твой пагляд,
Сілы дорыць мне і імкненні.
Пэўна, ёсць кахання зямля
Там, у зоркавым сутарэнні.
І адтуль дзве пары вачэй
Перакінуць мост праз пустэчу.
Павальней, здаецца, цячэ
Несупынная часу рэчка.
Мы па зорным шляху ідзем,
Не імгліцца яшчэ світанне,
У нас так многа агульных тэм
Для даверлівага маўчання.
Ахінае бяскоцасць нас
І нясе, як на крылах, каханне ...
Ды вяртацца на Зямлю час,
Каб паспець ў жаўруковае ранне.









# Вольга Марцішка

## Чароўны сон

Лес зімой марознай
У імглу адзеты.
Спіць пад небам зорным
У чаканні лета.

Спіць там дуб высокі,
Успамінаў поўны,
Сніць ён сон пра казку,
Сніць ён сон чароўны...

Аксамітам траваў,
Сонейкам сагрэты,
І пануе ў лесе
Залатое лета.

Зоры ясных кветак
Дараць пах мядовы,
Граюць тут вяселле
Камар з камароўнай.

Светла як у лесе,
Хораша і чыста!
Вымыў усе галінкі
Дождждык дыямісты.



У кожнай кроплі роснай
Сонейка іскрыцца,
Краскамі вясёлка
Ў небе зіхаціцца.

Радасцю сагрэты
Птушкі ў паднябессі,
Рыбы ў ціхай рэчцы,
І ліецца песня.

Камару — малойцу,
Юнай камароўне
Падарунак кожны
Прынясці гатовы.

Жвавыя ваверкі
З залатых арэхаў
Ладзяць ім для шлюбу
Хуткую карэту.

А убор вясельны,
Што як зоры ўіскрацца,
Выткалі на кроснах
Павучкі — майстрыцы.

Вось на стол вясельны,
Прыняслі на крыльцах
Тры калоды мёду
Пчолкі — працаўніцы.

Ягадак духмяных
Поўныя пляцёнкі
Назбіралі ў лесе
Балаболкі — сойкі.

Яблык ды грыбочкаў,
Грушаў, сліў і вішань
Прыняслі на голках
Вожык ды важыха.




Весяляцца госці
За сталом багатым,
На пяньку хваёвым
Пад дубовым шатам.

Ды спяваюць песні.
Граюць ім музыкі —
Конікі ў травах,
Жаўрукі над жытам.

А як сонца сядзе
За лістоту дрэваў,
Салаўі зальюцца
У чароўных спевах.

Светлякі, бы зоры,
На дубу заблішчуць
У казачный прасторы
Сітам таямнічым.

І заззяе стары
Дуб агністай краскай,
І ўзляціць у неба
Ён на крылах казкі.

І каханне прыйдзе
У гэты лес чароўны,
Дзе вяселле граюць
Камар з камароўнай...

3.12.96г.









# Алесь Мацулевіч

## Наперад, толькі наперад!

Было ў Антося неўгамоннае жаданне: яму вельмі хацелася навучыцца катацца на ровары.

Многія яго аднагодкі ўжо мелі свае равары і каталіся на іх у двары, задаволеныя, махалі адзін другому рукамі, весела крычалі, рагаталі, стараючыся абагнаць свайго спаборцу. Гоман іх не сціхаў да позняй ночы, і ў цёплай летняй цішыні кожную хвіліну раздаваўся тоненькі звон – гэта ад спецыяльных званочкаў, што прымайстраваны да кіраўніцы ровара. І ад звону гэтага Антосю станавілася вельмі цікава і адначасова сумна. Сумна, таму што не меў свайго ровара.

Кожны дзень ён выходзіў на двор, стаяў і глядзеў ад нечага рабіць, як катаюцца вясёлыя хлапчукі.

Аднойчы адзін з іх, Колька, прапанаваў Антосю пракаціцца вакол двара. Спачатку сам праехаў чатыры кругі. Антося гэта вельмі зацікавіла, і ён, нават не даўшы хлопцу злезці, падбег і схапіўся за ярка-чырвоную, з чорнымі пластмасавымі насадкамі, кіраўніцу.

— Зараз я паспрабую, толькі не дапамагай мне, дамовіліся?

— Ды, калі я цябе падтрымліваць не буду, то ты на месцы звалішся разам з роварам! – насмешліва сказаў Колька.

Антось пакрыўдзіўся, але ўсё ж такі весела і з выклікам кінуў гаспадару веласіпеда:

— Гэта мы яшчэ паглядзім! Пусці!

Колька, усміхаючыся, злез, а Антось адразу ўхапіўся за ровар і закінуў правую нагу за сядзенне.

Як толькі ён ускочыў на сядзенне, адарваўшы абедзве нагі ад зямлі, ровар рэзка нахіліўся ўправа і, дзынькнуўшы, шмякнуўся на асфальт. Антось паспеў абаперціся на локаць, балюча абадраўшы яго. Потым як жук, перавёрнуты набок, выпаўз з-пад ровара.

Словы Колькі спраўдзіліся, і гэта было найбалючай за ўсё.

Пасля гэтага здарэння Антось саромеўся выходзіць на двор і моўчкі глядзеў праз акно, як шалёна забаўляюцца, робячы розныя віражы на раварах, яго равеснікі. “ Нічога. вось навучуся, не горш за вас буду ездзіць”, — думаў ён.





Але як можна навучыцца, калі няма свайго ровара?

І тут Антось успомніў, як аднойчы ў вёсцы лазіў з бацькам на вышкі і сярод рознага ламачча, жалеза, старой выжаўклай саломы бачыў, як тарчыць вялікае пярэдняе кола і кіраўніца роварaa. Праўда, гэты ровар быў прызначаны для больш дарослых і напрактыкаваных у яздзе, чым Антось. Але не зацікавіў ён тады хлопца – звычайная жалязяка, з-за якой і так нязручна лазіць па вышках.

А зараз вось яму вельмі хацелася, каб бацька паехаў разам з ім у вёску і павучыў катацца на гэтым ровары. Гэта ж сапраўдны ровар, не якая-небудзь цацка, што пастаянна ломіцца . На такім і па горадзе не сорамна ездзіць! Антось будзе берагчы, даглядаць яго, толькі б хутчэй займець.

І ў вёсцы ніхто не будзе смяяцца з цябе, калі ты будзеш валіцца разам з ім. Гэта толькі спачатку, а потым бацька навучыць. Ён жа ўмее і ён таксама вучыўся.

Антось расказаў пра сваё жаданне бацьку, і той згадзіўся. У яго якраз з наступнага тыдня пачынаўся водпуск, і яны маглі цэлы месяц быць у вёсцы. Бацька меў свой “Масквіч”, і таму ровар ужо гадоў дзесяць валяўся на вышках без справы. Чаму б не даверыць яго свайму сыну?

І вось даўгачаканы дзень наступіў.

Антось, перапоўнены радасцю, нецярпліва таптаўся ў каморы каля старых дашчатых драбінаў, час ад часу трымаючы іх, каб ненарокам не ўпалі і, высока задраўшы галаву, усё глядзеў угару – калі спусціцца з вышкаў бацька з роварам, які ён так чакаў.

Спачатку з цёмнай квадратнай адтуліны ўверсе паказаліся ногі. Яны сталі марудна пераступаць уніз па дошках драбін.

— Трымай моцна, Антось! Не адступай! – загаварыў нарэшце бацька. Ён цяжка крахтаў і вельмі марудна спускаўся. Паказалася чорная спіна, прысыпаная нейкімі апілкамі, потым галава. А над галавой бацька асцярожна трымаў ровар.Так, вялікі гэта быў веласіпед! Вось чаму бацька так крэхча! Адныя колы ўражвалі сваімі памерамі.

Бацька дрыжачай рукой хутка працягнуў Антосю чорны кішэнны ліхтарык, якім свяціў на вышках, а сам акуратна апусціў ровар на земляную падлогу і прысланіў да драбінаў. Потым доўга аддыхваўся, змахваючы густы пот з ілба.А шчаслівы Антось адразу стаў кранаць, мацаць, разглядаць ровар, асвятляючы ліхтарыкам кожную дэталь.

Веласіпед быў увесь запылены, і цяжка было ўстанавіць яго колер. Нейкі брудна-жоўты, крыху пашарпаны. Ад сярэдзіны задняга кола да пядалаў быў працягнуты спецыяльны ланцуг з зубчатымі краямі. Збоку сядзення прыладжана нейкая



маленькая чорная сумачка на кнопцы. У ёй Антось знайшоў гаечны ключ. З другога боку ўстаўлена яшчэ адно прыстасаванне - помпа. Гэта такая асаблівая трубка з поршнем, якая напампоўвае паветрам шыну, калі яна праб'ецца.

Ёсць яшчэ маленькае круглае люстэрка задняга віду, і званочак таксама ёсць.

Ззаду і спераду – маленькія, як люстэрка, кругляшкі з нейкім незвычайным сетчатым шклом: чырвоны і белы. Гэта, бацька кажа, своеасаблівыя фары, каб у цемнаце не сутыкнуцца.

Словам, каштоўная рэч!

У той жа дзень бацька абмыў веласіпед ад пылу, змазаў пядалы, да бляску працёр кожную яго частку.

І стаў ровар, як новы: жоўты, вялікі, увесь блішчыць, кіраўніца, нібы моцныя і дужыя рогі, сядзенне высокае —Антосю цяжка на яго залезці. Вырашыў бацька апусціць сядзенне значна ніжэй. Так і зрабіў. Цяпер сыну зручна было на ім сядзець.

Пачаліся першыя трэніроўкі.

Спачатку бацька ўвесь час быў побач, моцна і цярпліва трымаў ровар, калі Антось сядзеў і няўпэўнена круціў педаламі.

— Глядзі на дарогу, сынок, і не напружвайся. Старайся сядзець роўна, — раіў бацька, ідучы ззаду і падтрымліваючы ровар адной рукой за багажнік, другой – за кіраўніцу.

Антось як мог круціў педалы, стараўся глядзець уперад, выпрамляўся, як струнка, але калі бацька адпускаў яго – ровар адразу, як па сігналу, нахіляўся набок і падаў. Гэта вельмі злавала Антося.

— Калі адчуваеш, што падаеш, адразу здымай нагу з пядалы і ўпірайся ёй у зямлю – тармазі, — вучыў бацька.

Антось, атрасаючы пясок і лісце са штаноў, уставаў і пачынаў усё зноў.

Хутка ён перастаў злавацца, калі падаў. Бацька казаў яму, што і сам некалі не раз разбіваў нос, пакуль не навучыўся ездзіць, і ніхто ў той час не ішоў за ім і не падтрымліваў.

Антось уважліва слухаў і стараўся кіраваць веласіпедам так, як кажа бацька.

Вучыўся ездзіць Антось па лясной сцежцы, таму што яна была менш ухабістай і па ёй можна было ехаць доўга-доўга, не зварочваючы.

Дзень за днём ён адчуваў сябе на сядзенні ўсё больш упэўненым. Бацька ўжо не хадзіў за ім ўвесь час, а зрабіўшы некалькі крокаў адпускаў, і Антось ехаў самастойна спачатку метр, потым два, потым пяць, а потым усё болей, болей. Калі




адчуваў, што ровар нахіляецца, адразу тармазіў, як вучыў бацька.

Хутка ўжо Антось мог паварочваць і самастойна садзіцца на ровар.

— Добра. Толькі не забывайся своечасова тармазіць, — гаварыў бацька, а сам пільна сачыў за сынам.

Ішоў апошні тыдзень водпуску.

Антось навучыўся праязджаць вялікія адлегласці, і бацька ўжо не дапамагаў яму нават кранацца з месца.

Але хлопца стала раздражняць тое, што бацька так уважліва назірае за ім, ідзе да яго, калі ён затармозіць, і аднойчы ён сказаў:

— Тата, мы дамовіліся, што ты ўжо не будзеш мяне пільнаваць! Са мною нічога не здарыцца. Я ж еду толькі праз лес, а па гэтым лесе рэдка калі хто ходзіць або ездзіць. І я сам магу прыйсці да хаты. Я не заблуджу, не бойся.

Бацька доўга думаў і нарэшце згадзіўся не пільнаваць Антося. Куды ён заблудзіць, ды і хто да яго якую справу мае? Вернецца і сам, раз такі смелы.

І Антось падзякаваў за гэта бацьку, і ўсё ж такі папрасіў даць чэснае слова. Бацька даў чэснае слова. Хай ужо ў апошні дзень водпуску Антось сам да яго вернецца.

У нядзелю раніцай Антось з бацькам вырашылі пахадзіць па лесе, пашукаць грыбоў. Вярнуліся яны з пахвальнай здабычай: чатырнаццаць баравікоў, сем сыраежак, тры падасінавікі. Бацька быў вельмі задаволены і з узнятым настроем. Добра правёў водпуск: сына вывучыў на ровары катацца, страху на гумне перакрыў, суседзям на агародзе дапамог, а тут яшчэ столькі грыбоў разам з сынам прынёс! Чаму б не радавацца?

І Антось быў не менш задаволены. Сёння бацька дае яму магчымасць заехаць далёка-далёка і не будзе за ім глядзець. І будзе Антось катацца, колькі яму захочацца.

У горад дамовіліся вяртацца толькі ў шэсць вечара. А зараз яшчэ поўдзень, Антось яшчэ наездзіцца ўволю!

І вось Антось ужо на лясной сцежцы.

Ён паспешна ўзлазіць на скрыпучае сядзенне і зноў жартоўна наказвае бацьку:

— Адразу, калі кранууся з месца, ідзі дахаты і не надумай цішком за мной ісці!

— Добра, я ж напярэдадні табе чэснае слова даваў, — згодна кажа бацька і пакорна паварочвацца ў бок гумна.

Антось, перапоўнены радасцю, шпарка круціць педалы, глядзіць уперад і ідзе ўсё далей і далей у глыб леса. Ён







задаволены, што за ім ніхто не наглядае.

Вось усё гушчэй і гушчэй робіцца па абодва бакі. Значна звузілася сцежка. Хутка праносяцца панурыя дрэвы. Узбуджана крычаць недзе сарокі. Пахне хвояй, застаялай вадой.

Вось прамільгнула з левага боку шэрая будка лесніка.

Вось галіны нямоцна шморгаюць па шчаках, і Антось на некалькі секунд прыплюшчае вочы.

Потым дрэвы пастунова расступаюцца і сцежка зноў робіцца больш шырокай.

Антось стараецца з усіх сіл сядзець проста, ён не хоча тармазіць. І тут заўважае, што лес пачынае радзець, відаць ужо за рэдкімі дрэвамі густое поле. Да поля Антось дагэтуль яшчэ не даязджаў, і таму яшчэ болей узрадаваўся.

Скончыўся лес. У вушах засвістаў вецер. Дрэвы змяніліся густымі сценамі жыта.

Недалёка прагрукатаў камбайн, Антось толькі краем вока заўважыў яго чырвоную кабіну. Не было часу спыняць на чым-небудзь увагу, трэба глядзець уперад, на дарогу. Наперадзе праз якую хвіліну зноў паказаўся лес.

Раптам з-пад кола, спалохана шчабечучы, выпархнула чародка нейкіх вельмі маленькіх птушак, але Антось ужо ні на што не звяртаў увагі. "Наперад, толькі наперад!" – крычала ўнутры яго.

Уехаў у незнаёмы лес. Сцежка стала далей нейкая пыльная і пыл ужо ўздымаўся з-пад колаў веласіпеда.

І тут да Антося стаў даносіцца спераду шум машыны. Потым паказалася сама машына – некай незнаёмай маркі, сіняя, з цёмным лабавым шклом, яна паволі рушыла насустрач, таксама ўздымаючы пыл.

Антось спалохаўся, але стараўся не траціць раўнавагі. А машына рушыла ўсё бліжэй і бліжэй. Хлопец падумаў, што ўжо не паспее аб'ехаць машыну. Занадта блізка яна была.

Ад гэтай думкі Антосю зрабілася зусім не па сабе. Кроў ударыла яму ў скроні і нічога больш не цямячы, Антось куляй саскочыў з ровара і скаціўся ў глыбокі роў. Скочваючыся, моцна разадраў шчаку, рукі і пабіў калена аб нешта цвёрдае.

Ужо лежачы на дне ірва ён скрозь востры боль пачуў, як спынілася машына, як адчыніліся дзверцы, як нехта вылез і непрыемным голасам сказаў:

— О, няўдаліца! Нават паварочваць не ўмее, а ўжо па лясах катаецца! Такі каштоўны ровар чуць не раздушылі!

Чыйсьці другі голас радасна прапанаваў:— Толік, гэты веласіпед шмат каштуе! Ты ж так хацеў падзарабіць! Давай





паглядзім, можа, ён сапсаваўся?

— Ды не, цэлы!

— Тады бярэм!

Антось, пачуўшы апошнія словы, адразу ўскочыў на ногі. Правае калена моцна балела, і цяжка было зрушыцца з месца.

Не, ён нікому не аддасць свой ровар! Ніхто не пасмее яго проста так узяць і звезці! Антось гэтага ніколі не дазволіць! Ён не пабаіцца! Хай драпаюць адсюль на сваёй машыне, дзелавыя!

Сціснуўшы зубы ад болю і злосці, Антось стаў, карабкаючыся ўверх, выбірацца з ірва. Ён не звяртаў ніякай ўвагі на свежую кроў, якая густа ішла з разадранай шчакі, не звяртаў увагі на чэпкія кусты і на абвальваючыся пад нагамі пясок, на непрыемны хруст пашкоджанага каленнага сустава. Злосць перапаўняла яго ўсяго, падаўляючы апошні страх.

— О, ды тут поўны камплект, і помпа ёсць! – чуліся галасы.

— Глядзіце, і гаечны ключ прыхапіў, механік смаркаты!

— Гаспадар які! Давай, Віця, адчыняй багажнік. Трэба нам гэты драндулет хутчэй засунуць і змывацца!

--Я вам зараз засуну! – злосна шаптаў Антось, выпаўзаючы з ірва.

Убачыўшы нарэшце злодзеяў, якія вывучаюць яго ровар, Антось адразу пахаладзеў, цела яго закалацілася, твар, вымазаны ў пясок і кроў, пабялеў.

Каля машыны стаялі тры высокія і мажныя хлопцы – гадоў па васемнаццаць – дваццаць. Адзін, з голай і моцна загарэлай спіной і ўскудлачанымі валасамі, ужо адчыняў багажнік машыны. Мабыць, з возера едуць, або недзе недалёка пікнік ладзілі. Другі, такі ж загарэлы, толькі ў зялёнай майцы з нейкімі не нашымі надпісамі, ужо падымаў ровар. Трэці, у цёмных акулярах і ў белай спартыўнай майцы, дапамагаў яму, падтрымліваючы задняе кола. Абодва саплі, як быкі, і ціха лаяліся.

Вось ужо ровар асцярожна запіхваюць у багажнік.

Антось падняўся ва ўвесь рост у пяці кроках ад хлопцаў і, як мага мацней, закрычаў:

— Не чапайце!

Голас яго дрыжаў, уздрыгвала і галава на худзенькіх плячах. Абадраныя кулачкі моцна сціснуліся. Са шчакі ўсё яшчэ цякла кроў.

Тыя, што засоўвалі веласіпед, аглянуліся, і адзін з іх – той, што ў акулярах – насмешліва і жорстка сказаў:

— Што? Ты ўжо вылез? Лезь назад і адпачывай, смаркач! Цяпер гэта ровар Толькі!





Астатнія два, убачыўшы замурзаную і абадраную постаць Антося, гучна зарагаталі.

Антось стаяў не варушачыся.

— Ты што, не чуеш? - спытаў "новы гаспадар" ровара і стаў набліжацца да спалоханага хлопца, — каціся назад у яму, ровар зараз мой!

Антось працягваў нерухома стаяць, гледзячы проста ў чорныя акуляры ашалеламу злодзею. А той стаяў у баку і ўсміхаўся.

Толік тым часам падышоў вельмі блізка і з усяго размаху штурхнуў хлопца ў грудзі. Антось, як не стараўся ўтрымацца, зноў пакаціўся ў роў. На гэты раз ён моцна рассёк нос і разадраў кашулю.

Захлынаючыся слязьмі і крывёю, ён ляжаў ніцма і шаптаў самыя страшныя праклёны, якія толькі ведаў. Няўжо ён больш ніколі не ўбачыць свайго веласіпеда?

— Парадак! — пачуўся зверху голас.

— Драпаем хутчэй! Можа, ты гэтага смаркача забіў?

— Халера з ім, едзем! — закамандаваў той, каго звалі Толік.

Пачулася , як бразнулі дзверцы, як завялася машына і кранулася з месца, як аддаляўся яе гул, такі страшэнны і прыкры.

У хуткім часе ўсё заціхла.

Зноў таямнічая цішыня надышла ў лесе. Толькі вяршыні дрэў ціха-ціха шапацелі, калышучыся - прадвяшчалі пахаладанне. Недзе далёка пракрычала сарока.

І яшчэ спакойную цішыню парушалі глухія ўсхліпванні і дробныя дрыжыкі, марудныя няўпэўненыя крокі і трэск сучкоў пад нагамі - гэта ішоў дахаты хлопец, у якога толькі што адабралі тое, што ён так чакаў. Шматкі кашулі матляліся на ім ад узмацніўшагася ветру. Правая нага пастаянна саскоквала. Худыя плечы дрыжалі.

Збіраліся хмары. Трэба хутчэй вяртацца дахаты! Зараз можа пачацца моцны дождж.









# Марына Масла

## *Ефрасінні ў Полацак*

Мая дарадца, мая сястрыца,
Хачу табе я пакланіцца.
Так наслаіліся стагоддзі,
Што цяжка нам адчуць прыплоддзе
Святых надзей тваіх і мараў.
Ды хопіць! Хопіць ужо ахвяраў.
Даруй жах гэтае дрымоты,
Бо сярод рокату грымотаў
Мы ўсёткі здольныя адчуць,
Што нас у лепшае вядуць
Любві гаючыя праменні:
Мы ўсё менш кідаем камені,
Калі хто нас і абражае,
Дарэмна часу не губляем,
Бо толькі той павагі варты,
Хто на святло ідзе ўпарта!
Мая дарадца, мая сястрыца,
Не дазваляй са шляху збіцца!







* * *

Паміж намі гады і стагоддзі,
Дзьмуць сівыя вятры ў нягоддзе.
Ды, чым больш я з Табой размаўляю,
Повязь гэтых вякоў адчуваю,
- Годзе! Просіць сусвет у адчаі.
– Будзе! Кажа паэт і чакае.
Што чакаць? Не будзіце маўчанне,
Лепш паслухайце ніў хваляванне,
Бо цяпер каласуецца жыта,
Значыць - спее і блізка прыбытак!
А астатняе, як дапаўненне,
Калі чыстае наша сумленне.
Важкасць думкі такой адчуваю,
І на сэрцы ні кроплі адчаю!

## *Я.Купалу – да 116 угодкаў*

Купалу днямі шанавалі,
Аб яго лёсе ўспаміналі.
Калі пачула “загадка смерці...”,
Гатова ўраз была памерці.
Відаць, адзін быў без падтрымкі,
Пакуль са злосцю ў абдымкі
Сплялося наша раўнадушша.
Ты ў нябыт? У нябёсы рушыў!
Гучаць купалаўскія песні
Ўлетку, увосень, напрадвесні.
Ну, а калі зіма ступае,
З ёй дух Купалы спачывае,
Каб зноў набраўшыся той моцы
Ўсе дзяўчаты нашы й хлопцы
Купалы песні падхапілі,
І край аддана свой любілі.
Каб шанавалі сваю мову
І зберaглі яе асновы.
Каб нам свяціла спадчына,
Нібы ўсмешка матчына!




## *Адаму Міцкевічу*

О, не мой ты, Адаме,
Не твая я, Марыся...
Дык чаму ж праз стагоддзі
Нашы думкі сышліся?
Ну, што яшчэ не зроблена табою,
Чаму твой позірк скованы тугою?
З Радзімаю прыйшлося развітацца,
З каханаю не часта сустракацца...
А ці было ўсё гэта, наш Адаме?
Прайшлі дзве сотні год,
А ты ўсё з намі!
Сапраўдная любоў заўжды праменіць,
Яе ніякі час не зменіць.
Пульсуе зараз у крыві юначай,
Ці хіба можа быць іначай?
Даю зарок –табе заўсёды дваццаць,
Калі ты здольны ўдзячнасцю вяртацца.
І мужнеюць Адамы,
Прыгажэюць Марысі,
Ты нам сэрцы, як храмы,
Асвятляеш пакрысе.

## Бывай, дваццатае стагоддзе

Бывай, дваццатае стагоддзе,
Спрачацца нам с табою годзе.
Усяго хапіла, шчэ з ліхвою,
Але гаючаю вадою
Зноў напаўняюцца крыніцы,
Дзе можна ў стоме прыпыніцца.
Святлеюць твары, праменяць вочы,
Ды толькі горкі лёс сірочы
Нам не дае спакойна спаць:
А што ж нашчадкам перадаць?
Бывай. Дваццатае стагоддзе...
Мы апранаемся па модзе,
Ды не ў камодзе, а ў душы
Важней за ўсё, што там ляжыць.
Нам трэба вельмі асцярожна
Дапамагчы сцяблінцы кожнай
Узняцца ўверх пад мірным небам,







Каб была шчодраю зямля
Насуперак Чарно - былям!
Няхай наступнае стагоддзе
Дабра і шчасця больш прыплодзіць!

## Мова

Ты легендарнай Атлантыдаю
У сусвет гісторыі глядзіш,
Але не быць табе забытаю,
Бо ты з пластоў зямных бруіш.
Яднаеш сэрцы чалавечыя,
Лагодзіш, душы іх і час,
Нічога, што так пакамечана,
Паразуменне – лепшы прас!
Гляджу ўдалячынь, ужо ўсход ружавее,
Святлее, бліжэе, пяе.
Вось гэтак і слова дужэе, спялее,
Мацуе выток свае!

## Даруй!

Ізноў сказала штосьці неўпапад,
Але мяне даруюць твае вочы.
І гэты незвычайны лістапад
Нас разлучаць зусім не хоча.
Усё ўжо, здаецца ў былым,
Ды суцяшаюць лепшыя імгненні.
Вялікае пазнаеш у малым,
Каханне не паставіш на калені!

## Восень

Я хачу, каб ніякі туман
Не заслаў нам да шчасця дарогі,
Каб размылаа   дажджамі абман,
Зніклі ўсе перашкоды, трывогі.
А пакуль апускаецца восень
На зямлю і ў сэрцы людскія,
Няхай будуць шчаслівымі лёсы,
Што выношваюць мары святыя !





## Святое маўчанне

Ты мне нічога не кажы,
Бо я даўно ўжо на крыжы
Была, была не раз распята?
Хіба дарэмна хтось сказаў:
Ну, нібы з крыжа знята".
Так, тыя, хто ўратавалі,
Не проста так мяне здымалі:
Не ўсе йшчэ зведала я мукі,
Не абдымалі твае рукі
Мяне пяшчотна і ласкава,
Дзе смак разлукі так гаркава
Упарта зноўку праступае,
У чаргу за шчасцейкам вяртае.
Я раскрыжую свае рукі,
Каб шчаслівей жылі ўнукі.
Ты мне нічога не кажы,
Для сэрцаў роднасных няма мяжы.

* * *

Мы жывём на адной зямлі.
Адчуваеш? Яна знямела!
Тут віхуры снягі мялі,
І ад гора зямля самлела.

Дапаможам устаць з калєнь
І паверым у сілу неба.
Кліча час нас да перамен,
Яго траціць дарма не трэба.

Што мы дзелім зямлю бацькоў,
Продкаў нашых жа кроім душы!
Так, набіўшы шмат сінякоў,
Беларусь мы сваю задушым.

Азірніся, прыстань, узваж,
Хай прыступкі метро "Нямігі",
Як натоўпу сляпы віраж,
Стануць у горы апошнім мігам!

Мы жывём на святой зямлі...









# Пятро Макарэвіч

## Хай без мяне ...

Драмаў з наганам пад падушкай,
Трымаў ля боку аўтамат.
І грыф "зусім сакрэтна" птушкай,
Нібы на крылах, уздымаў;

Валлё ад пыхі распірала:
Здавалася, я - пуп зямлі! ..
Вясны ачмуранай навалу
Гады разважнасці змялі.

Не друз стукацтва — дынамітам
У нутро мне мужнасць залягла:
Заўжды ўзрываюся адкрыта.
У твар, не ўпотай з-за вугла.

У паэзіі сцвярджаю годнасць:
Хай сонцам свецяцца радкі!..
Хай без мяне ў пагонах подласць
Тчэ павуцінныя кругі.

## "Пара завесці дрот у лыч начальству!"

Развесіў хвацкія вусы
На хутары ячменны колас.
У дакалгасныя часы
Тут гаспадарыў бацькаў голас.

Калі з казой — не раз у год —
Каля вуглоў каморнік шастаў,
Крычаў: "Пара завесці дрот
У лыч Тарноўскаму начальству!"..




Маўчыць тых дзён гвалтоўны зброд ...
Зямлі ў бацькі — два аршыны ...
І ў дзесяць сотак агарод
Цяперака -- абуза сыну.

Каб пустазеллем не здзічэў,
Засейвае яго ячменем.
І не касой ужо пячэ —
Камбайн уміг амалоціць зерне!

Чаму ж шчыміць каторы год
Душы збалелае сялянства
Той крык "Пара завесці дрот
У лыч Тарноўскаму начальству"?..

## Горад мой любімы

Горад мой любімы!
Гронкамі рабіны.
Быццам і не сеяў вораг чорны дым.
Карпусамі грае
Сонца небакрая -
Ўсё цвіце наўкола шчасцем залатым.

Замак пад блакітам
Маладзее з Лідай,
Светлае каханне дзе і я знайшоў.
Што за чараўніцы
Нашы маладзіцы
Паланяюць сэрца песнямі, душой.

Горад мой раздольны!
Ты, як Нёман вольны.
Ордэнамі зорак неба над табой.
І адну з іх - ордэн
"Знак пашаны" горда
Носіць Ліда -горад старжытны мой.









# *Міхасъ Мелънік*

## Сустрэча з лесам

Калі садзіцца вечар на вяршыні
Зачараваных цішынёю дрэў,
Прыходжу ў лес, нібыта ў дом
гасцінны,
Дзе чалавека шчырага сустрэў.
І пачынаю цёплую размову
Пра тое, што так моцна
ўсхвалявала,
Стараюся знайсці такія словы,
Каб спагаднейшым ўсё навокал
стала.
Стараюся не пакрывіць душою,
Каб ўсё жывое тут павесялела,
І прычашчаюся лагоднасцю лясною,
Каб падабраць на гэтым свеце белым.
Калі садзіцца вечар на яліны
І цішыня на роздумы наводзіць,
Прыходжу ў лес, нібыта дом
гасцінны,
Як да людзей на свята
ці на споведзь...

## Рэквіем

У каляровым пажары лісця
Стаіць абсмалены дуб,
як струп
на здаровым целе сучаснасці
Каб не забыцца,
напамінае —
доўга
гояцца раны
мінулага ...




## На ўлонні прыроды

Мне на ўлонні прыроды роднай,
Нібы ў матчынай цёплай
пасцелі...
Адчуваю я тут сваю годнасць,
Адчуваю я тут сябе цэлым.
І ніякіх мне лекаў не трэба,
І не трэба камфортаў ніякіх...
Толькі крышачку чыстага неба,
Толькі каліва роснае мяты...

## Ля Нёмана

Усе ўздыхаюць,
ахаюць:
— Як непаўторны!..
Які ён велічны і вольны! —
І ўсё, што пра яго гавораць, —
праўда.
Але што словы!..
Вусны твае ўтораць:
— Ну і прасторы,
ну і шырыня!
А я дык ведаю —
у рацэ ёсць глыбіня.

## Пераўвасабленне

Спакойным быць хачу, як снежны лес,
калі прырода мудрасцю кранае,
калі жыццёвы чалавечы лёс
адметную выразнасць набывае,
калі ўсе забываюцца нястачы,
нікчэмнымі становяцца памылкі...
Што значаць учарашнія няўдачы
У свеце першароднае стыхіі?!







## Лодка жыцця

Плыві, мая лодка, плыві,
Бо я неразлучны з табой,
сустрэчныя хвалі лаві
і іх супакойвай сабой...
Хай вецер балюча
ў твар дзьме,
Я вочы, магчыма, прыжмуру,
Ад слёз не раскісну ніколі,
нідзе —
Такі я ўжо ёсць па натуры.
Не знаю, дзе вечнасці
гавань мая,
Далёка ці блізка — не знаю.
У яе непазбежнасці
ўпэўнены я,
Ніхто мне пярэчыць не стане.
Плыві, мая лодка, плыві,
Пакуль прадаўжае свяціцца
Жыцця шлях зарніцай любові,
Надзеі і шчасця зарніцай!

## Каханне

Былі на шляху маім горы,
Бяздонні былі і моры —
І мне аніякага гора
Яны не ўяўлялі ніколі.
Ішоў я праз ветры і шквалы,
Праз лютасці і перашкоды
І верыў у свае прычалы,
І верыў у нейкую згоду...
Была толькі ты непадступнай,
Была непарушнай і гордай,
Красою сваёй непадкупнай
Скошвала з ног, як стралою.
О, вечная прага кахання.
Ты сілу чароўную тоіш!
То ядам сваім паражаеш,
То сокам гаючым поіш...





## Сяргею Ясеніну

Калі мне сілаў не ставала,
Калі, здавалася, усё зняверана,
І ноч да горла падступала,
Тады я думаў пра Ясеніна.

Калі душа і сэрца ў скрусе,
Гняце туга асенняя,
Тады па-руску я малюся
За бяссмяротнага Ясеніна.

## Паэту Леаніду Вінніку

Жыццё не знае старасці –
Яно не мае меж:
З глыбокай старадаўнасці
Да нас прыходзіць верш.

Гады яму пракладваюць
У будучыню шлях.
Не рыфмаю, а праўдаю
Звініць страфа ў вяках.

Паэты – людзі гордыя,
Нічым іх не сагнеш.
Перад манернай модаю
Не б'е паклоны верш.

Не ведае паэзія
Ні пудры, ні памад,
Яе такой гарэзаю
З нас кожны бачыць рад.

У пояс не паклоніцца
Яна ні перад кім,
З хлусні прыдворнай модніцы
Зрывае парыкі.

Гады радком пракладваюць
У будучыню шлях.
Не рыфмаю, а праўдаю
Звініць страфа ў вяках.








# Алесъ Нічыпар



## Запознены прыезд

Крэкчучы і войкаючы, стары Міхал падняўся і цяжка выдыхнуў паветра, сеў на старасавецкім ложку, які скрыпеў ад нязначнага руху , дрыжачымі рукамі пачаў набіваць скусаную люльку. Закончыўшы гэты занятак, ён паднёс да тытуню запалку і глыбока зацягнуўся дымам.

— Эй, старая, — паклікаў ён хрыплым голасам.

На кухні пачуўся нейкі стук, а пасля глухія, шаркаючыя крокі.

— Ну, чаго табе?

— Янка не прыехаў яшчэ?

— А ты што, аслеп? Няма яго.

— Звані яшчэ, старая, мусіць, паміраць буду.

— Ну, яшчэ чаго, набраў у галаву...

— Цыц, баба, аджыў я сваё... чую я.

Шэрыя клубы дыму амаль цалкам хавалі сухі твар старога.

— Ой, божа, — загаласіла Ганна. — Усё ж доктар казаў.

— Мала што ён казаў, — абарваў яе Міхал. — Я па сабе лепш ведаю. Аджыў я, Ганна, аджыў. Праўду кажуць, што ўсялякая хвароба чалавека перад смерцю адпускае, вось і мне лёгка стала. Звані, кажу, да Янкі, на сына хоць перад канчынай паглядзець хачу. А то, як вырас, як з'ехаў з дому, так і ходзіць па свеце, як сабака бадзячы.

Голас яго абарваўся, пераходзячы ў глухі, надрыўны кашаль.





— Звані, кажу! — хапаючыся за грудзі, прахрыпеў Міхал.

Ганна схапіла хусцінку і, як мага хутчэй, выбегла за дзверы. Міхал падняўся, узяў кій і, хістаючыся, марудна накіраваўся следам.

Ён спыніўся перад старым, заседжаным мухамі люстэркам і сумна паглядзеў на наклееныя пад ім старыя здымкі, на свае баявыя ордэны, атрыманыя ў гады вайны, а зараз нерухома павіслыя на бруднай сцяне. Міхал уздыхнуў. На яго глядзела яго маладосць, якая прайшла ў парваных ботах да Берліна, а пасля будавала лепшае жыццё ў тых жа ботах. А зараз вось гэты пераможца і будаўнік дажываў свае апошнія дні ў паўразбуранай хаціне, па сценах якой адважна бегалі тараканы.

— Так, дабудаваўся, — прамармытаў Міхал і, адчуўшы слабасць у нагах, паспяшаўся да дзвярэй.

— Хоць бы сына пабачыць, — услых вымавіў ён. — Зусім пра бацьку забыўся, афярыст чортаў.

Выйшаўшы за парог, стары цяжка апусціўся на прыступкі і па звычцы дастаў люльку. Дзесьці непадалёку завыў сабака. Марудна набіваючы тытунём люльку, стары падняў вочы на шэрае неба, па якім плылі цяжкія дажджавыя хмары і даносіўся маркотны крык жураўоў. Яны спакойна праплывалі над хатай, нібы развітваліся з ім. Міхал горка ўсміхнуўся гэтай думцы. Неўзабаве перад яго вачыма ўсё паплыло, люлька выпала са змаршчыненых, напрацаваных рук, і наляцеўшы вецер рассыпаў на калені тытунь...

На наступную раніцу да хаты Міхала, дзе ўжо сабраліся людзі, падкаціла раскошная машына замежнай маркі. З яе вылез высокі малады чалавек, нервова стукнуў дзвярыма.

— Што здарылася, маці? — рэзка звярнуўся ён да выйшаўшай насустрач Ганны. — Чорт вазьмі, вы мяне ад справы адарвалі. Дзе бацька?

— Няма ўжо твайго бацькі, сынок, — адказала Ганна і, адвярнуўшыся, накіравалася да хаты.









# Юля Пясецкая

## Мая Беларусь

Сінявокай яе называюць,
Найчысцюткую Белую Русь.
Аб ёй вершы і песні складаюць.
Колькі іх? Падлічыць не бярусь.
І хоць край мой не дужа вялікі —
А на карце дубовы лісток, —
Ён на рэкі, азёры шматлікі,
Шмат у ім і лясоў, і бароў.
Тут, як сонца, палі залатыя,
Тут паўсюдна крыніцы журчаць.
Невялічкія пушчы грыбныя,
Жаўрукі па-над лугам звіняць.
Тут крыштальныя рэкі, азёры,
Раўчукі па дубровах бягуць.
І зусім нездарма называюць
Сінявокай маю Беларусь.

## Янка Купала

Любіў зямлю і свой народ,
Любіў сваю краіну. мову.
І днём і ноччу, з года ў год
Дарыў гаючае нам слова.
І вершы дзіўныя яго
Любоўю раняць душу.
Яго няма ўжо і даўно,
А ўсё ж такі я мушу
Сказаць, што ён жыве, ён шчэ жыве
У пачуццях нашых. у кожным слове.
У нашым сэрцы, у галаве
Гучаць радкі на роднай мове.
Змагаўся ён за лепшы свет,
За наша шчасце і свабоду.
Але што можаш ты, паэт,
У час нянавісці сляпое?
Як шмат і вершаў, і паэм,
Радкоў цудоўных — іх нямала.
Вялікі дзякуй вам. паэт
Бацькоўскае зямлі — Купала!






# Ганна Рэлікоўская

## 1863 год (альбо "Кастусю Каліноўскаму")

Палае наш край... Мужыкі — касінеры...
Не стала больш моцы трываць.
Кастусь Каліноўскі! Вядзі нас наперад!
За шчасце вядзі ваяваць.

Ты вочы адкрыў нам, Яська з-пад Вільні,
"Мужыцкую праўду" нам даў.
На гэтай зямельцы заўжды мы рабілі.
Чаму пан багаты забраў?

А -ну, дзецюкі! Сцяг свабоды ўздымем,
Прагонім тырана — цара.
Мы столькі цярпелі зняволі і крыўды,
Настала адпомсціць пара.

Табе, Каліноўскі, наш лёс ўручаем,
Ахутаны роспаччу, болем.
Мы будзем змагацца рашуча, з адчаем,
Гатовыя згінуць за волю.

Лепш смерць у баі, чым рабскі наш стан,
Лепш слаўная памяць у народзе.
Унукі не ведаюць слова хай "пан"
І вечна жывуць у свабодзе!



# Маці

Я к табе прылячу
Шызакрылаю птушкай,
Каб хоць крышку суняць
І суцешыць твой боль.
Слёзы, беды твае
Знае толькі падушка,
Што ў начы палiваеш
Сваёй чыстай слязой.

Працавала на полі
Ад зары і да ночы,
Гадавала дзяцей,
Ласкай песціла іх,
Не змыкала вачэй,
Адганяла дрымоту,
Мыла, шыла, вязала
Для кравінак сваіх.

Але вось разляцеліся
Дзеці быццам бы птушкі,
І калі-нікалі
Толькі вестку прышлюць.
Па-ранейшаму ты
Думкі дзеліш з падушкай.
Па-ранейшаму вочы
Слёзы горкія льюць.

* * *

Ты верыш мне? Ці ты не верыш?
Пра кожны позірк твой і крок
Я напісаць магла бы вершык,
Знайшла бы хоць адзін радок.

Не пацiскай плячыма, родны,
І не дзівіся мне наўслед.
Я адвяду твае нягоды,
Я засланю цябе ад бед.

Не паглядай, як на малую,
Не засмучай мяне адказам.
Нічым цябе не патурбую,
А толькі ўсюды буду разам.







# Лілея Сазанавец

## Марына

**навэла**

Сустрэча з Марынай адбылася ў мяне зусім выпадкова і нечакана. Запрасіла неяк сяброўка з'ездзіць у вёску да яе маці. Казала, краявіды там вельмі прыгожыя, лес недалёка. Пазагараем, маўляў, ягад лясных наямося. Кажуць, хто ў ліпені чарніцу паспытае, таму на ўсю зіму вітамінаў хопіць. Я спакусілася на прапанову сяброўкі. Ды і калі па-праўдзе, рабіць у горадзе мне не было чаго. Муж з'ехаў у камандзіроўку ажно на два месяцы запар, дзеці паехалі ў летнік. Не сядзець жа ўвесь адпачынак на балконе ды падстаўляць гарачаму ліпеньскаму сонцу то адзін бок, то другі!

Зборы былі нядоўгія. Мы збіраліся пабыць у вёсцы толькі некалькі дзён. Сышлі з цягніка раніцай. Яшчэ стаяў лёгкі туман там, дзе — я адразу здагадалася — павінна была цячы рака. Я ўгадала месцазнаходжанне невялікай, але даволі бурлівай рэчкі з празрыстаю вадой. Сяброўка прапанавала да маста не ісці, а перайсці рэчку ўброд.

— Тут неглыбока, — паведаміла яна, убачыўшы мой не зусім даверлівы пагляд у бок рэчкі.

Мы паднялі вышэй свае доўгія, па модзе, спадніцы і смела ўвайшлі ў ваду. Прыемная прахалода ахапіла нашыя разгарачаныя ногі. Вёска знаходзілася адразу за пагоркам. І вось там, у гэтай вёсцы я нечакана нос у нос сутыкнулася са сваёй колішняй сяброўкай Марынай.

* * *

Мы з ёю сябравалі яшчэ са школы. Жылі ў адным доме, толькі ў розных пад'ездах. Памятаю, мы, малеча, увесь час зайздросцілі Марыне, бо яна жыла толькі з бабуляй і магла рабіць, што хацела. Бабуля лічыла сваім абавязкам накарміць унучку ды сачыць, каб апратка на ёй заўсёды была чыстай ды







непадранай. Гэта было амаль што немагчыма, бо мы, дзяўчаты, гайсалі па платах не горш, за хлопцаў. На выхаванне ўнучкі ў бабулі, мабыць, не хапала ўжо ані сілаў, ані жадання. Марыну выхоўвала вуліца, але трэба адразу дадаць, што выхавала яна яе не горш, чым нас нашыя бацькі. Марына была гэтакая самая, як і ўсе астатнія, Адно розніла нас: Марына ніколі не ведала, што такое дзяга. Таму, напэўна, яна была больш рамантычнай, чым мы ўсе астатнія. Проза жыцця ёй была амаль што невядомая. У тым сэнсе, у якім мы тады яе разумелі.

Мы з Марынаю вырашылі паступаць у педінстытут. На заводзе працаваць не хацелася, у медінстытут баяліся не прайсці па конкурсе, ды і "анатамічка" трошкі палохала. Вывучыліся мы з Марынаю без асаблівых турботаў. Настаў дзень размеркавання. Першай у аўдыторыю, дзе сядзела камісія, зайшла я. Старшыня камісіі пагартаў мае паперы, уважліва, хвіліны са тры, разглядаў мой твар, нібыта не пазнаваў мяне, хоць дагэтуль ажно два гады запар вычытваў нам лекцыі па гісторыі культуры.

— Ну што, спадарыня Камароўская, мы знайшлі для вас добрую школу, — ён зноў зазірнуў у паперы, — будзеце выкладаць мову і літаратуру ў Залескай сярэдняй школе. Усе падрабязнасці аб вашым побыце і г.д. вам паведамяць на месцы. Жадаю поспехаў.

Старшыня не даў мне ачомацца, пацісnуў руку, падсунуў мне пад паху скрутак нейкіх папер, і я апынулася зноў у калідоры. Наступнай ў аўдыторыю ўвайшла Марына. Я разгарнула свае паперы, пагартала іх. Пакуль што назоў вёскі Залессе мне нічога не гаварыў. "Добра", — падумалася мне, — "на месцы пабачым, што гэта за вёска Залессе". Хоць дзесці ў глыбіні душы мне, чалавеку гарадскому, у вёску ехаць не хацелася. Але я пакуль што вырашыла не турбавацца. Хто ж яго ведае, як яно станецца далей!

Марына таксама атрымала размеркаваньне ў вёску, толькі ў іншы раён. У горадзе засталіся толькі трое нашых студэнтаў: староста групы і двое камасамольскіх актывістаў, хоць актывісты тыя ледзь-ледзь на "тройку" навуку выцягвалі. Вядома ж, часу не было вучыцца за рознымі сходамі ды мерапрыемствамі. А мы з Марынай былі выдатніцамі. У мяне была адна "чацвёрка" па фізкультуры (не магла хутка бегаць),






а Марына дык і наогул была “круглай” выдатніцай.

Марына пасля размеркаваньня была найшчаслівейшая.

-- Паеду ў вёску! — радавалася яна, — як Лабановіч, буду на ростанях шпацыраваць”.

— Часу табе не будзе шпацыраваць, — упэўнена канстатавала Каця, яшчэ адна нашая сяброўка, якая вырасла ў вёсцы, — гной з хлява будзеш выкідаць, а не шпацыраваць.

Хутка пасля размеркавання мы раз’ехаліся хто куды. След Марыны згубіўся. Неяк хутка яна перастала адказваць на мае лісты. Бабуля ейная памерла, тую вёску, куды яна паехала на працу, пасля Чарнобылю адсялілі. Так я згубіла Марыну і зусім не чакала сустрэць яе вось зараз, праз столькі год. Я была ўпэўнена, што яна вярнулася ў горад, і вось тут не лішне будзе ўспомніць мой асабісты прыезд на працу ў Залессе.

* * * * *

Выйшла я з аўтобуса, стала на пыльнай вуліцы і не ведаю, у які бок ісці, бо аўтобусны прыпынак знаходзіўся як раз пасярод вёскі. Ці то ўлева падацца, ці ўправа — хто яго ведае! Але ў вёскі, як аказалася, маюцца свае “плюсы”. Да мяне зараз жа падыйшлі некалькі вясковых кабет. Яны адразу запыталіся:

— А ці не новая вы будзеце настаўніца?

Атрымаўшы станоўчы адказ, яны мяне не толькі да школы правялі, але нават і маю валіску паднеслі. Дырэктарам у школе была мажная жанчына з завіўкай і залатым зубам наперадзе. Паміж зубам залатым і зубам сапраўдным свяцілася дзірка. Дырэктарка заўважыла мой позірк, які я, на жаль, не змагла схаваць, і паведаміла:

— Няма часу ў горад з’ездзіць, зубы паўстаўляць. То бульбу трэба было пасадзіць, то вось сена зараз паспела.

Яна павяла мяне паказаць школу, тлумачыла, што дзе знаходзіцца: вось тут майстэрня, а вось тут сталоўка. Адно мяне здзівіла: у школе ў кожным класе стаялі печкі. “Грубкі”, — назвала іх дырэктарка. Яны мне нават спадабаліся, такія высокія, прыгожыя.

Але потым пачаліся непрыемнасці. Я спытала, дзе я буду жыць. Дырэктарка, сама ветлівасць, добразычліва ўсміхнулася і ахвотна паведаміла:

— А вось тут побач. Я дзеля вас спецыяльна знайшла хату



бліжэй да школы. Толькі школьны двор прайсьці і вы дома.

Хата, у якой мне прапанавалася жыць, мне не спадабалася. У ёй было чыста, светла, але я не ўбачыла там ані радыё, ані тэлевізара. Ды і гаспадыня падалася мне, на першы погляд, нейкай "ваўкаватай" жанчынай. Нават на прывітанне не адказала. Але адсутнасць тэлевізара — гэта было яшчэ напаўбяды. У рэшце рэшт, тэлевізар можна было купіць. Я звярнулася да гаспадыні:

— А дзе я буду прымаць душ?

Тая неяк дзіўна пераглянулася з дырэктаркай і нічога не адказала. Прыйшлося дырэктарцы зноў мне ўсё тлумачыць:

— А ў нас лазня ёсць. Па пятніцах жаночы дзень.

— А як жа?... — далей я не стала нічога казаць, бо адчула, як камяк у горле перапыняе дыханне.

Дырэктарка заўважыла перамену ў маім настроі і каб трошкі яго ўзняць, прамовіла:

— Ды вы не думайце, у нас вельмі добра. Не тое, што ў іншых вёсках. У нас моладзь ёсць. Хлопцы ёсць. Чатыры трактарысты і два слесары. Замуж выйдзеце, а замужнім настаўніцам старшыня дазваляе свой дом будаваць. Карову калгас выдзяліць, парсючка.

Я вельмі выразна ўбачыла сябе з завіўкай, залатымі зубамі, убачыла, як я разам з мужам — трактарыстам закідваю на прычэп ягонага трактара сена, каб было што есці ўзімку нашай карове. Убачыла ўсё гэта, падхапіла сваю валіску і пабегла на прыпынак. Балазе, туды якраз вырульваў аўтобус.

* * * *

А Марыну я адразу пазнала. Яна была вельмі падобная на тую дырэктарку.







# Алесь Стадуб

## Услед

Я — постаць часу,
Плоцъ яго і цень,
Мяжа дабра і зла,
Спакусы і спагады,
Люстэрка ўпартых,
Амплітуда ўцех,
Жыццёвы персанаж
У кадры і за кадрам.

Рухавіць страх ад тых,
Хто рвецца ўслед;
Інстынкт, як і ў мяне,
Каб недзе не спазніцца.
На іх стракатага
Жыцця буклет
Цень навядуць унукі...
Са сваёй званіцы.

## Экспромт

Боль заные глуха крыкам жураўля,
Радасць усміхаецца смелым жаваронкам.
Ад касцей нявінных мучыцца зямля.
Ад любві дзяўчаты войкаюць спрасонку.

Гэты сум і спеў, і боль, і сон, як ток,
Працінае памяці маёй дыскету.
Па аснове белай недарэчны ўток
Тчэ
нязгодна вечна
дысанансы Свету.






## Я не адзін

Мазольны дзень паставіў кропку
І ціха ўцёк. Начуе ноч.
Я не адзін. На пятым крокі
Не спяць маёй суседкі зноў.

Званю. Як клічу наўздагонкі.
Вар'іруем пра "што", "чаму",
Што ўжо яна наспела ў жонкі,
Што запрагу, як буду муж.

Ды ад спакусных разважанняў
Наш заікнуўся дыялог.
У трубцы дыхае маўчанне —
Ці то пралог, ці эпілог.

## Як здані

Марудны дзень падаўся да спачыну,
Да заўтра клопаты спавіў.
Зноў творча, як для нас, пад Лайкаўшчызнай
Пачнуць канцэрціць салаўі.

Прарэжуцца ў сціплых зорак вочы
Парадаваць і даль, і шыр.
А мы па дну ўтульнай роснай ночы,
Як здані, пройдземся ў цішы.

Спахопімся ад нечаканай знічкі
Пад небам-дахам майскай цьмы —
Сваё без слоў па беларускай звычцы
Ўзаемна загадаем мы.








# Станіслаў Суднік

## Наш Грунвальд
(вянок санетаў)

### 1. Шыхт

Мы стаім у шаломах з мячамі,
Перад намі варожая раць,
З намі мова, зямля наша з намі,
За яе мы ідзём ваяваць.
Мы ўглядаемся ў проразі грозна,
Мы вышукваем хібу ў брані,
Ад жалезнага цяжару млосна,
Божа, нас ты хаця бароні.

Вытнем разам, магутна, зацята,
Будзем біцца, як косім заўзята,
У крывавай рацэ той шалёнай
Палымнеюць агнём берагі,
Перад намі – праклёны, праклёны,
Па-над намі – сцягі і сцягі.
1.10.90.





## 2. Пачатак

Па-над намі – сцягі і сцягі,
Чырвань бель паласою пячэ,
А навокал снягі і снягі,
Кроў чырвоная густа цячэ.
За снягамі ваўком ные ноч.
Зубы вострыць злаюдава раць,
Моцны Божа, хаця не суроч,
Дай жа трапна варогаў уцяць.

Нам няведамы страх у баі,
Мы забылі каханых сваіх,
На шчытах толькі вольнасць у нас,
Вораг падае ніц пад мячамі,
Нам не страшны ні суд і ні час,
У нас крылы даўно за плячамі.
1.10.90 г.

## 3. Прызямленне

У нас крылы даўно за плячамі,
Ды мы звяжам іх моўчкі, што моц,
І самотнымі зорак вачамі
Распагодзім бясконцую ноч.
Па зямлі сваёй грэшнай нагамі
Мы адмераем кожную пядзь,
Мы вятры супакоім сцягамі,
І шчытамі мы высцелем гаць.

Між баямі самотнай хвілінаю
Мы зліёмся з зямлёй, як з дзяўчынаю,
Вольны вецер пяе аб свабодзе,
Неба нам, як акрайчык страхі,
Нам не ўзлезці туды, мой народзе,
На нагах цяжкай гірай грахі.
5.10.90г.




## 4. Будні

На нагах цяжкай гірай грахі,
А ля скроні, як руля, праклён,
Мой народзе, табе ад сахі
Трэба выйсці да велічных дзён.
Ты забіты нядоляй і працаю,
Аж забыўся на назву сваю,
І штодзень бізуном альбо тацаю
Кроў па кроплі ўсе цiснуць тваю.

А мы ўсё ці аралі, ці сеялі,
Рукі цешылі працай умелаю,
Забываліся мроямі чыстымі,
Ды пабудка, як дзень, наступала,
Нібы хваляў сцяна перад выспамі,
Перад намі варогаў навала.
5.10.90 г.

## 5. Вораг

Перад намі варогаў навала,
Як стагоддзі мяняюць іх твар,
Ды душа перамен не спазнала,
Не згасае там хцівасці жар.
Хоць там немец, хоць лях, хоць расеец,
Іх аднолькавы точыць чарвяк,
Зразумець не жадаюць, не ўмеюць:
Тут не рускі жыве, не паляк.

Тут жывуць беларусы спрадвеку,
Церпяць тут і канаюць ад здеку.
Новы дзень зноў бядой узгарае,
Б'е маланкай па гэтым краі,
Новы вораг сюды падступае,
Там чужынцы, тут жменька сваіх.
5.10.90 г.





## 6. Нечысць

Там чужынцы, тут жменька сваіх,
Там нахабная, лютая зграя,
Што чужынцы? Вядома, ад іх
Мы ўсялякага ліха чакаем.
Што чакаць. адкажы, Беларусь,
Нам ад злыдняў, табой спараджоных,
Што па частках цябе прадаюць,
Што табе пагражаюць палонам.

Паглядзіце, як нечысць шыкоўна,
Тут жыве, бы ў раі, усяроўна,
Раскашуе на шыі народа,
Наша гора, наш боль растаптала,
У кайданы ўкавала свабоду.
Як нас мала, мой Божа, як мала.
4.02.91 г.

## 7. Адраджэнне

Як нас мала, мой Божа, як мала,
Не ўрадзіла нас болей зямля,
Кепска сонца яе саграваліа,
І была ўся з камення ралля.
Мы па каліву цяжка ўзрасталі,
Нас ламаў, нас таптаўградабой,
Мы ў сібірах сябе пахавалі,
На вайне заліліся крывёй.

Ды ад кожнай сцяблінкі спрадвеку
Хоць зярнятка хавалі ад здеку,
І вось "трубы гудуць над Гародняй",
Менск пагонічаў кліча сваіх,
Мы – жывыя, хай нават і сёння,
Як заўсёды, нас меней, чым іх.
4.02.91 г.




## 8. Досвітак

Як заўсёды, нас меней, чым іх,
Як заўжды, у нас горшая зброя,
Нам падмогі няма ад святых
І няма нам спагады людское.
Шлях замкнула гісторыя свой,
Інсургентаў калісь прадавалі,
А сягоння бязмоўнай гурбой
Галасы недавяркам аддалі.

Бач,абселі наўкола панамі,
Бач камандуюць велічна намі
Ды такі ненадоўга хаўрус,
Новы дзень, новы час наступае,.
Мы ўстаём за сваю Беларусь,
Таўкавіска ад зброі зіяе.
23.02.91 г.

## 9. Мэта

Таўкавіска ад зброі зіяе,
Таўкавіска сцягамі гарыць,
Наша справа ў той бітве святая,
Мы радзіму ідзём бараніць.
Ад пагарды ідзём, ад бязволля,
Ад спакусы пакорай раба,
Ад бязвер'я, душэўнай няволі...
Тут за прышласць зямлі барацьба.

Жыцці мы ўжо даўно паламалі,
Сэрцы ў латы стальныя ўкавалі.
Мы супроць той пакоры лядачай,
Што народ мой з жывёлай раўняе,
З нашых душаў і сэрцаў гарачай
Таўкавіска крывёй заплывае.
23.02.91 г.







## 10. Поле

Таўкавіска крывёй заплывае,
Ды за шыхтам зноў шыхт устае,
Год за годам Пагоня збірае
Нас пад светлыя сцягі свае.
Год за годам зямля Беларусі
Пасылае ўсё новых сыноў,
І ні мукі, ні смерць не прымусяць
Іх адгэтуль вярнуцца дамоў.

Наша поле ляжыць не пад Менскам,
Не пад Вільняй, Варшавай, Смаленскам,
Душы, сэрцы, надзея і гнеў,
Беларусь, поле тое – мы самі.
Крумкачоў чуцен жудасны спеў,
Мы за край свой кладзёмся касцямі.
23.02.91 г.

## 11. Неўміручасць

Мы за край свой кладзёмся касцямі,
Толькі душам спачыну няма,
Зыркай помсты святымі агнямі
Ім зігцець у бязмежжы цямна,
Ім лятаць, ім блукаць у прасторы,
Новых целаў рупліва шукаць,
Душы тых, хто загінуў учора
Заўтра будуць ізноў ваяваць.

Вольны дух Беларускай краіны,
Ты не знік, не прапаў, не загінуў,
Ты ў Сусвеце бязмежным лунаеш,
І гадуеш сыноў ты сваіх,
Светлай мараю нас асвятляеш
У тым нашым апошнім баі.
11.09.91 г.




## 12. Стойкасць

У тым нашым апошнім баі,
Колькі б злыдням ні рвацца, ні пяцца,
Мы патонем у моры крыві,
А назад ні адзін не падасца.
Не саступім ні пядзі зямлі
І ні слоўца радзімае мовы,
Мы сцягі не на жарт паднялі,
Не на дзень мы скідалі аковы.

Родны край, ты адзіны на свеце,
Мы ж усе – твае грэшныя дзеці.
За свабоду тваю і за шчасце
Мы ў адказе і толькі мы самі,
Тварам стрэнем любыя напасці.
Наша крыўда... Яна перад намі.
11.09.91 г.

## 13. Праклён

Наша крыўда... Яна перад намі,
Нашы ворагі ладзяць хаўрус,
Як ваўкі, зноў скрыгочуць зубамі,
Сцеражыся, бядак-беларус.
Камуніст і расеец натхнёна
Дзеляць нашу святую зямлю,
І гразяць нам апошнім палонам,
І звіваюць на шыю пятлю.

Дык праклятым хай будзе маўчанне,
Ласкі нечай сляпое чаканне.
Хай праклёны на ўсіх тых да скону,
Хто шчэ ў нашых шыхтах не стаіць,
Мы ўстаём на Зямлі абарону,
Мы зракаемся месца ў раі.
11.09.91 г.





## 14. Грэх

Мы зракаемся месца ў раі,
Мы даўно саграшыць не баімся,
Мы свабодны ва ўчынках сваіх,
Ад ратунку душы адракліся.
З сэрцаў вырвем спагаду і жаль,
Перад выбарам сродкаў не станем,
Нас не можа абцяжваць мараль,
Нас дабром немагчыма параніць.

А на шалю грахоў на тым свеце
Грэх адзін нам не ляжа, паверце,
Грэх пакоры, бязвер'я, адчаю,
Здрады грэх не запішуць за намі.
Перад лёсам радзімага краю
Мы стаім у шаломах з мячамі.
11.09.91 г.

## 15. Бой

Мы стаім у шаломах з мячамі.
Па-над намі – сцягі і сцягі,
У нас крылы даўно за плячамі,
На нагах цяжкай гірай грахі.
Перад намі ворагаў навала,
Там чужынцы, тут жменька сваіх,
Як нас мала, мой Божа, як мала,
Як заўсёды, нас меней, чым іх.

Таўкавіска ад зброі зіяе,
Таўкавіска крывёй заплывае.
Мы за край свой кладзёмся касцямі
У тым нашым апошнім баі.
Наша крыўда... Яна перад намі,
Мы зракаемся месца ў раі.
1.10.90 г.







# Ганна Худзякова

Стань да неба ты тварам
І пабач, як пылае пажарам
У грудзях тваё кволае сэрца.
Яно шчыра на волю ірвецца.
Хочаш ты ад зямлі адарвацца,
Паляцець праз агонь і ваду,
Абагнаць журавоў чараду,
Дыхаць свежым паветрам
І ляцець супраць ветру.
Твае думкі да сонца імкнуцца,
Я жадаю табе не прачнуцца.
Хай жыццё тваё ў марах пройдзе
Няхай шчасце цябе ўрэшце знойдзе.



# Святлана Цішук

## У руху

Па вуліцы
людзі ідуць
і машыны —
Ідзе тут, бяжыць і чмураецца рух.
Горад жыве. Не шукае спачыну.
У руху і я, бы ў вясельным віру.

Не можа душа мая
мяккім клубочкам
Ляжаць і маўчыць,
не спяваць, не дурэць.
Горад жыве.
Не магу быць на ўзбоччы —
Павінна і я ў руху жыць і гарэць!

* * *

Жанчынай сталай заранiца
У люстэрка шыбінаў глядзіцца
I бачыць твар свой вечаровы,
Праменнем сонечным арошаны.

Прыгожасць, яркасць, кідкасць твару
Здаецца, ноч не прыйдзе старасці,
Здаецца, сонечныя сілы
Ніхто, нічым не перасіліць.




## Дачакаюся я любага

Замуж я не пайду
За нялюбага:
З ім вясна майго дня
Стане восенню
І напоўніць слязой
Мае вочанькі.

Замуж я не пайду
За нялюбага:
Я не ўбачу за ім
Сонца радасці,
Я за ім буду цьмець,
Быццам суцемкі ...

Замуж я не пайду
За нялюбага:
Ён не сцепліць душу
Мне і сэрцайка,
Для палёту не дасць
Ён мне крылачкі.

Замуж я не пайду
За нялюбага:
Сэрца мкнецца маё
Да каханага,
Што шукае мяне,
Як чоўн берага.
Дачакаюся я
Свайго любага!







# Ісці не проста...

(эклога)

— Кажы, якія ёсць сцяжыны
Паміж гадоў і дзён тваіх?
Ці коле жнівеньскае ржышча
Душу тваю ў жыцця гаі?
— Цікаўны ты. Няўжо адказу
Не бачыш сам? Перад табой
Я - кніжка. Кніжка мае сказы
Пра ўсё. Чытаць - быць быццам Бог.
І ты, чытаючы, уцяміш,
Што я адольваю адну
Сцяжынку лёсу. Я прыцята
Да той сцяжыны. Ёй іду.
— Ха-ха! Напэўна табе лёгка
Па сцежцы - роўнядзі ляцець?
Зайздрошчу ...
— Погляд незамглёны
На рэчы можа кожны мець.
Вакол падзеяў, рэчаў лютасць
Халодзіць, б'е душу, сячэ,
Іржышчам коле, і габлюе
Душу яшчэ. Яшчэ! Яшчэ!
— Але ж сцяжынкай ты адною,
А не шматлікімі ідзеш?
Адно — не шмат! Ад стомы ногі
Не забаляць...
— Калі сядзець...
А я іду. Не роўнядзь сцежка,
Якую доўжыць лёс. Ісці
Па ёй не проста, як праз цемрадзь,
Як праз віры, праз мост хісткі.
І я іду ...
— Паспачувацьма
Табе, напэўна, трэба?
— Я
Іду, каб жыць, а не жахацца.
Хто йдзе - той зацугляў каня ... .




* * *

Хоць не п'ю жытнёвачкі
Чарку я крыштальную,
Я трымаю новае
Радасці ліхтарыкі.
Не цяжка быць самой сабой...
Не цяжка ўзімку быць вясной!

## Я ўдзячна...

Нясецца конік маёй мары —
Ён апярэджвае дзень-час.
Ён скача, трушчыць, топча хмары
Сумотныя ў маіх вачах.

Кіруе конікам надзея,
Бы вершнік смелы... Нельга жыць,
Калі душа не маладзее,
Калі наперад не бяжыць...

Я ўдзячна, што нясецца конік,
Што смелы вершнік ёсць на ім...
Без стомы рухаецца Космас,
Я — Космас паміж вёснаў, зім!







# Кацярына Яскевіч

Грукочуць падковы па хвалях каменных,
Нібыта спяваюць аб сонцы, жыцці,
Нібыта сумуюць аб днях тых спахмельных,
Што зніклі адзін за адным ў забыцці...
Небачныя коннікі, збруя і конь,
Не чутны ні голас, ні цугляны звон,
А коннік імчыцца. кудысці ляціць,
Не можа ён знікнуць, не можа забыць
Ні песняў, што маці калісьці спявала,
Ні землю, якая жыццё даравала,
Ні мову сваю, што звінела крыніцай,
У якой не было вымаўлення "скарыцца".
Грукочуць падковы па хвалях каменных,
Нібыта сумуюць аб сонцы, жыцці,
Нібыта спяваюць аб днях тых спахмельных,
Што зніклі адзін за адным ў забыцці...






# ГОРАД МОЙ

**Словы Леаніда Вінніка** **музыка Вячаслава Пыпеця**

♩=130

Ла-скай со-ней-ка шчы-ра аб-лі-ты. Ну ку-ды толь - кі во-

кам ні кінь... Пры-ві - тан-не та-бе, го-рад

Лі- да, Доб-ры дзень вам, ма-е зем- ля - кі

Прыпеў

Я та-бо-ю га- на- ру- ся,

Ты заў-сё- ды са мной, Пры-га-жэй-шы па ўсёй Бе- ла-

ру - сі Лю- бы мой, го - рад мой.

Ласкай сонейка шчыра абліты.
Ну куды толькі вокам ні кінь...
Прывітанне табе, горад Ліда,
Добры дзень вам, мае землякі.

Я табою ганаруся,
Ты заўсёды са мной,
Прыгажэйшы па ўсёй Беларусі
Любы мой, горад мой.

Ты ў людзях сваіх, нібы ў зорках,
У старажытных легендах жывеш.
Б'юць маланкі высока - высока,
І тваіх не кранаюцца меж.





## Нашы аўтары

Данута Бічэль.

Нарадзілася ўвёсцы Біскупцы пад Лідай у 1937 годзе. Скончыла Гарадзенскі педінстытут. Настаўнічала.З 1982 года працуе ў Гарадзенскім гістарычна - археалагічным музеі, з 1995 года - дырэктар Музея Максіма Багдановіча ў Горадні. У 1999 звольнена. Старшыня Гарадзенскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Выдала зборнікі вершаў "Дзявочае сэрца" (1961), "Перапёлкі" (1968), "Дагані на кані"(1973), "Габрынька і Габрусь" (1985), "Гараднічанка" (1993), "Снапок" (1999), "Нядзелька" (1999) і інш. За зборнік вершаў "Дзе ходзяць басанож" (1983) атрымала дзяржаўную прэмію Беларусі. Жыве ў Горадні.

Сяргей Астраўцоў.

Вучыўся ў СШ №9 г. Ліды. Працуе карэспандэнтам газеты "Навіны" і радыё "Свабода". Жыве ў Горадні.

Мар'ян Баяровіч.

Нарадзіўся ў 1933 годзе на Ашмяншчыне. Скончыў Беларускую акадэмію музыкі па класу баяна. Дваццаць гадоў працаваў дырэктарам Лідскага музвучылішча. Пасля выхаду на пенсію працуе выкладчыкам. Збіральнік беларускіх народных песень. Аўтар зборніка "Беларускія народныя песні і танцы. Апрацоўка для баяна, акардэона і двухраднага храматычнага гармоніка". Падрыхтаваў да выдання зборнік "170 беларускіх народных песень Гродзеншчыны". Жыве ў Лідзе.

Янка Брында.

З Бярозаўкі. Вучыцца ў Гарадзенскай духоўнай семінарыі на ксяндза.

Уладзімір Васько.

Нарадзіўся ў вёсцы Ліпічанка Шчучынскага раёна. Скончыў Гарадзенскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Янкі Купалы. Працаваў дырэктарам сярэдняй школы на Дзятлаўшчыне, у рэдакцыі Дзятлаўскай раённай газеты "Перамога", намеснікам рэдактара "Лідскай газеты". Аўтар кніг паэзіі "Прасветленнасць" і "На схілах берагоў". Друкаваўся у калектыўных зборніках "Дзень паэзіі", "Краю мой Нёман", часопісах Беларусі.

Леанід Віннік.

Нарадзіўся ў 1956 годзе ў Лідзе. Працаваў электрыкам на будаўніцтве трасы Нiжневартаўск - Сургут - Урэнгой, бондарам на возеры Байкал. Зараз сталяр у пансіянаце "Альгінка". Аўтар зборнікаў




"Под погасшими звёздами", "Мелодии печального дождя", "Настальгія". Жыве ў Лідзе.

Яніна Догель.
Жыве ў вёсцы Радзівонішкі.

Юры Карэйва.
Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Лідзе. Выпускнік Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы. Жыве ў Лідзе. Студэнт Сучаснага Гуманітарнага Універсітэта. Друкаваўся ў зборніках паэзіі "Шлях" і "Кола", а таксама, ў перыядычным друку.

Святлана Кухарэвіч.
Нарадзілася ў Лідзе ў 1979 годзе. Студэнтка Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта. Друкавалася ў газетах і часопісах "Зорька", "Раніца", "Молодёжный курьер", "Лідская газета", "Літ art" і інш. Перакладае з англійскай мовы на беларускую.

Вера Ляцецкая.
Нарадзілася на Гарадзеншчыне. Скончыла Менскі педінстытут імя Горкага. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Жыве ў Лідзе. На пенсіі.

Дзінара Мазітава.
Нарадзілася ў 1984 годзе ў Лідзе. Студэнтка Музычнага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. Стэпендыятка прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у 1996 і 1999 гадах. Напісала больш 70 п'ес для фартэпіяна,у тым ліку "Лясная сюіта", "Нязнайка і яго сябры". Напісала оперы "Кветкі пад ліўнем", "Чароўная флейта", балеты "Дзюймовачка", "Чароўная флейта", "Торт у небе", цыкл песень на свае вершы і вершы беларускіх і расейскіх аўтараў. Лаўрэат конкурсаў "Надзея-92, 93, 94, 96, 98" у Горадні, музычнага конкурсу "Я кампазітар" у Санкт-Пецярбургу, Міжнароднага конкурсу кампазітараў у Маскве, Міжнароднага конкурсу піяністаў імя Клеафанса Агінскага. Пераможца беларускага тэлефестывалю "Усе мы родам з дзяцінства", пераможца абласнога фестывалю "Новыя імёны" і г. д. Выдадзена яе кніжка "Балет по сказке Андерсона "Дюймовочка". Вершы піша на беларускай мове.

Ганна Маркевіч.
Нарадзілася ў 1983 годзе ў Лідзе. Вучылася ў СШ №4 і Лідскай музычнай школе. Піша музыку. Лаўрэат і дыпламант конкурсаў юных кампазітараў. Дыпламант фестывалю "Сымон - музыка" ў Стоўбцах у 1996 годзе. Зараз студэнтка Лідскага музычнага вучылішча.



Алена Майсевіч.

Вольга Марцішка.

Нарадзілася ў 1975 годзе ў Лідзе. Чатыры гады працавала ў СШ №17 педагогам - арганізатарам. Зараз працуе ў гарадскім камітэце БПСМ. Скончыла гістарычны факультэт Гара-дзенскага ўніверсітэта. Пераможца гарадскога тура рэспуб-ліканскага конкурсу “Дэбют”.

Алесь Мацулевіч.

Студэнт Лідскага педвучылішча.

Марына Масла.

Нарадзілася у вёсцы Гурыны на Лідчыне ў 1957 годзе. Скончыла матэматычны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Жыве ў Лідзе. Працуе выхавацелем у дзіцячым садку.

Пётр Макарэвіч.

Нарадзіўся у 1938 годзе на Меншчыне. Скончыў Менскі педінстытут імя Горкага. 25 гадоў адпрацаваў у рэдакцыі “Лідскай газеты”. Друкуецца з 1962 года. Аўтар зборніка “Злітак”.

Міхась Мельнік.

Нарадзіўся на Магілёўшчыне. Скончыў філфак Гарадзенскага педінстытута імя Янкі Купалы. Працуе выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Лідскім педвучылішчы. Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь. Аўтар зборніка вершаў “Скрыжаванне”.

Алесь Нічыпар.

Юля Пясецкая. СШ №4.

Ганна Рэлікоўская.

Нарадзілася ў 1964 годзе ў вёсцы Кянці Лідскага раёна. Скончыла Ваўкавыскае педвучылішча і гістарычны факультэт БДУ. Працавала настаўніцай пачатковых класаў, з 1993 года - настаўніца гісторыі. Жыве ў Лідзе.

Лілея Сазанавец.

Нарадзілася 10 чэрвеня 1963 года ў вёсцы Лукашына Івейскага раёна. Васьмігодку закончыла у Лукашына, потым вучылася ў Лідкім індустрыяльным тэхнікуме, закончыла з чырвоным дыпломам, працавала на “Оптыцы”. Зараз працуе на ААТ “Лакафарба”.

